# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 8




МАСТАЦКАЯ КОРЭКТУРА БАРЫСА МАЛКІНА. ФОТО Ул. СЕМЯНЯКІ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ГОД 1930 НА ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК—**

**Абагульвае** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Вывучае** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**Дае** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матэрыялы—факты, лічбы, па пытаньнях бягучай працы.

**Дапамагае** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сякратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, зьвяноргам і інш.

**Асьвятляе** чарговыя пытаньні комсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Ставіць** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

**Рэгулярна зьмяшчае** крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**Зьмяшчае** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях

**КОЖНАЯ** гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы, зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты—павінен падпісацца на часопіс „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК".

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэдакц. часопісу „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК"

Орган ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы на м-ц

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 25 кап. |
| „ 3 месяцы | 75 кап. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 50 кап. |
| „ 1 год | 2 р. 75 кап. |

**Кошт асобнага нумару—15 кап.**

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—**Менск, Пляц Волі, № 5.** Аддзелам падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР—**Менск, Савецкая, 54** і усе паштовыя аддзяленьні і лістаносцы.

# БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА КНІЖКА-ПОШТАЙ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

— ВЫСЫЛАЕ ЎСЕ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ, ЯЎРЭЙСКАЙ, РАСІЙСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, ЛІТОЎСКАЙ, ЛАТЫСКАЙ МОВАХ. . . . . . . .

— ВЫКОНВАЕ ЎСЕ ЗАКАЗЫ НА КНІГІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА НА КНІЖНЫХ СКЛАДАХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, НА ДРУГІ ДЗЕНЬ. . . . . . .

— ДАЕ 10% СКІДКІ ШКОЛАМ, НАРДОМАМ, БІБЛІОТЭКАМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ПРЫ КОЛЕКТЫЎНАЙ ВЫПІСЦЫ. . . . . . . . . .

— ПРЫ ПЕРАСЫЛЦЫ РАЗАМ З ЗАКАЗАМ УСІХ ГРОШАЙ—ПЕРАСЫЛКУ—„КНІЖКА-ПОШТАЙ"—БЯРЭ НА СВОЙ КОШТ. . . . . . .

— НА ЗАКАЗЫ ДА 1 РУБЛЯ АБАВЯЗКОВА РАЗАМ З ЗАКАЗАМ ВЫСЫЛАЮЦЦА ГРОШЫ, НА ЗАКАЗЫ ЗВЫШ 1 РУБЛЯ ТРЭБА ПРЫСЫЛАЦЬ 25% КАШТОЎНАСЬЦІ ЗАКАЗУ. . . . . . . . . . . .

— „КНІЖКА-ПОШТАЙ"—ЗАРАЗ-ЖА АДКАЗВАЕ НА ЎСЕ ЗАПЫТАНЬНІ АБ НОВЫХ, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ, КНІЖКАХ. . . . . . . . . . . . . .

**ЗАКАЗЫ ПРЫСЫЛАЙЦЕ ПА АДРАСУ:**
**МЕНСК, БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА**
**КНІЖКА—ПОШТАЙ**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

25 красавіка 1930

N 8

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41.



На бальшавіцкую сяўбу

Фото А. Кальцатага

# СЬВЯТА ПРАЦЫ...

Г. РУГЕР.




Сьвяткаваньне 1-га Мая ў 1917 годзе ў Ленінградзе.

...„НАЗНАЧАЕЦЦА вялікая міжнародная маніфэстацыя ў раз і назаўсёды вызначаны час, такім чынам, каб разам ва ўсіх краінах і ва ўсіх гарадох, у адзін умоўлены дзень працоўныя выстаўлялі перад грамадзкімі ўладамі патрабаваньне абмежаваньня законам рабочага дня да васьмі гадзін, а таксама выкананьня ўсіх іншых пастаноў міжнароднага конгрэсу ў Парыжы.

Таму, што падобная маніфэстацыя ўжо прызначана на першы май (новы стыль) Амэрыканскаю Фэдэрацыяю Працы на конгрэсе гэтае фэдэрацыі ў Сан-Луі ў сьнежні 1888 г., дык гэтае-ж чысло прынята і для міжнароднае маніфэстацыі.

Працоўныя ўсялякіх нацый організуюць гэтую маніфэстацыю так, як гэта ім будзе падказана ўмовамі іх краін".

Так пастанавіў міжнародны соцыялістычны конгрэс у Парыжы 14—21 ліпеня 1889 году. Гэта было на золку політычнага жыцьця другога інтэрнацыяналу. Гэта было тады, калі гэты інтэрнацыянал быў яшчэ сапраўды чырвоным інтэрнацыяналам. Гэта было тады, калі ён яшчэ не ахварбаваўся ў жоўты колер, калі ён яшчэ ня быў соцыял-фашыцкім.

У змаганьні за васьмігадзінны рабочы дзень, за ўмацаваньне братэрства пролетараў усіх краін, у змаганьні супроць імпэрыялістычных войнаў і за войны грамадзянскія супроць капіталу, нарадзіўся першы май—сьвята надзей усіх прыгнечаных і абяздоленых, сьвята ненавіснае для банкіраў і эксплёатататараў.

У далёкай Амэрыцы, у штаце Сан-Луі нарадзілася ідэя гэтага міжнароднага сьвята пролетараў усіх краін. Афіцыйна агалошанае на парыскім конгрэсе яно зрабілася сымболем рэволюцыйнага змаганьня, яно зрабілася сьцягам паўстаньня для ўсіх прыгнечаных і эксплёатаваных.

Так нарадзіўся першы май—рэволюцыйны, чырвоны май.

* * *

Цёмная, непрасьветная ноч панавала тады ў Расіі. Чорная царская рэакцыя душыла расійскія працоўныя масы, душыла і ўсе населеныя нацменшасьцямі тэрыторыі—беларусоў, украінцаў, палякаў, яўрэяў. Турмы і ссылкі, казацкі гарапнік і шыбельніца былі адказам крывавых цароў на спробы вызваленьня працоўных Расіі.

Але ні турмы, ні ссылкі, ні казацкія гарапнікі, ні шыбельніцы—нішто не магло запужаць рэволюцыянэраў і пролетараў. Змаганьне з царскаю ўладаю, змаганьне з капіталам працягвалася. Змаганьне крывавае і бязьлітаснае.

І аднэю з форм гэтага рэволюцыйнага змаганьня было сьвяткаваньне тады ў Расіі сьвята першага мая—сьвяткаваньне часта консьпіратыўнае, сьвяткаваньне, якое ня раз канчалася бойкамі дэмонстрантаў, арыштамі і высылкамі.

Чырвоныя маёўкі організоўваюцца ў Маскве, у Казані, у Пецярбургу, у Іванава-Вазьнясенску і ў шэрагу іншых гарадоў. Консьпірацыйна зьбіраюцца таварышы ў лесе, за горадам. Іх ня шмат. Дзьвесьце, трыста, а іншы раз і яшчэ менш чалавек. Кажуць рэволюцыйныя прамовы, пяюць рэволюцыйныя песьні, клянуцца, ня гледзячы на царскі тэрор, працягваьць змаганьне... Часта на такія сходы налятае атрад казакаў. Б'юць рэволюцыянэраў гарапнікамі, арыштоўваюць правадыроў, саджаюць у турмы, ссылаюць у далёкі Сібір. Але гэта ня спыняе пролетараўбайцоў. Агітацыя за працяг змаганьня робіцца і на другі год у першы май, зноў адбываюцца рэволюцыйныя сходы, зноў гаворацца рэволюцыйныя прамовы, зноў сьпяваюцца рэволюцыйныя песьні.

А ў Харкаве ў 1900 годзе больш дзьвёх тысяч чыгуначнікаў, ужо адчынена, з чырвоным сьцягам у руках, выходзяць першага мая на вуліцы. Да дэмонстрантаў далучаецца яшчэ больш як трохтысячная грамада рабочых і служачых іншых фабрык і заводаў, прадпрыемстваў і ўстаноў.

— Васьмігадзінны рабочы дзень... Падвышэньне зарплаты—вось што ў гэты дзень першага мая 1900 году красавалася на рэволюцыйных плякатах харкаўскіх чыгуначнікаў.

Паліцыя і казакі адказалі на гэта стрэламі, гарапнікамі, арыштам 179 дэмонстрантаў. Тады 2-га мая чыгуначнікі абвясьцілі забастоўку і баставалі да таго часу, пакуль арыштаваныя таварышы ня былі вызвалены з турмы. А перад самаю імпэрыялістычнаю вайною, у Пецярбургу 1-га мая 1913 году бастуе ўжо 25 тысяч рабочых.

... За апошні час прыкмячаецца вялікае непакойства сярод фабрычных рабочых,—піша ў сваім сакрэтным абежніку дэпартамэнт паліцыі да губэрнатараў, граданачальнікаў і жандарскіх упраў провінцый.—„Неабходна зараз-жа і безадкладна ўжыць адпаведныя захады, каб узмацніць нагляд за рабочымі, а ў выпадку ўзьнікненьня стачак—як мага іх задушваць у самым пачатку. Агітатараў арыштаваць, рабочых, што бастуюць, этапным парадкам паадсылаць на радзіму... Паведамляючы пра гэта для належных распараджэньняў, дэпартамэнт паліцыі пакорна просіць пра вынікі сваячасова ўведамляць для дакладу яго правасхадзіцельству".

Вораг нэрвуецца, вораг ужывае захады, вораг рыхтуецца задушыць рэволюцыйны рух пролетараў. А стачкі растуць. Першы май сьвяткуецца ўсюды, дзе ёсьць рабочыя, дзе ёсьць эксплёатаваныя. І ў гарадох, і ў глухіх мястэчках, і ў турмах, і ў ссылцы на канцавосьсі... Усюды, дзе пульсуе рэволюцыйная думка, дзе ёсьць жалезная нічым не запужаная воля да перамогі.

Рабочая кляса таксама рыхтавалася да свайго апошняга рашучага бою.

* * *

1914 год. Год пачатку сусьветнае імпэрыялістычнае вайны. Год вялікае і сур'ёзнае пераацэнкі каштоўнасьцяй. Другі інтэрнацыянал ня вытрымвае рэволюцыйнога іспыту. Ён здраджвае рэволюцыйнай солідарнасьці пролетараў усіх краін, ён у асобе сваіх правадыроў пераходзіць у лягер імпэрыялістых, у лягер „патрыётаў". Замест таго, каб змагацца супроць імпэрыялістычнае вайны лідэры другога інтэрнацыяналу клічуць рабочых абараняць „сваю" буржуазію, абараняць „сваю радзіму". Адмаўляюцца яны ў 1914 годзе і ад сьвяткаваньня рэволюцыйнага сьвята першага мая. Замест гэтага сьвята рабочае солідарнасьці яны галасуюць у парлямантах Нямеччыны, Францыі, Англіі і іншых краін за ваенныя пазыкі на організацыю сусьветнае бойкі.

І толькі крайняе левае крыло сусьветнае соцыял-дэмократыі, толькі комуністыя ня здрадзілі свайму баявому сьцягу. Толькі адны яны ў гэту эпоху шовіністычнага асьляпленьня і велізных здрадніцтваў не забываліся паўтараць:

— Вышэй чырвоны сьцяг паўстаньня... вайна вайне... пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

А потым надышла ў Расіі лютаўская рэволюцыя. Цар адмовіўся ад прастолу, пачало лягчэй дыхаць. І комуністычная партыя першага мая 1917 году (пастарому стылю 18 красавіка) выйшла разам з рабочаю клясаю на вуліцы, каб патрабаваць спыніць імпэрыялістынную вайну і перадаць усю ўладу пролетарыяту.

— Вайна вайне!—крычалі бальшавіцкія плякаты.—Няхай жыве міжнародная рэволюцыя!

На фронце пачалося братаньне...

Набліжаліся дні Чырвонага Кастрычніка.

* * *

А затым бадзёрыя, магутныя першамайскія дэмонстрацыі ўжо ў савецкай краіне, ужо пры дыктатуры пролетарыяту. Першамайскія суботнікі... змаганьне на франтох... вошы, голад, холад. А ў сэрцы кожнага пролетара моцна пяецца: пераможам, пераможам... павінны перамагчы .. ня можам не перамагчы.

Там на захадзе таксама змаганьне рабочых з капіталам. Савецкая ўлада у Вэнгры, савецкая ўлада ў Бавары. Забастоўкі, стачкі, рост рэволюцыйнага руху ва ўсіх краінах сьвету—ва Францыі, у Амэрыцы, у Англіі. Там таксама ў першамайскія дні пламянеюць чырвоныя сьцягі і на плякатах красуюцца рэволюцыйныя лёзунгі:

— Уся ўлада Саветам!.. Няхай жыве Ленін!.. Няхай жыве пролетарская рэволюцыя!

Але там рабочыя не перамаглі—*пакуль што* яшчэ не перамаглі. Соцыял-фашыстыя ў цесным саюзе з буржуазіяй там расстрэльваюць першамайскія дэмонстрацыі, саджаюць рэволюцыянэраў-рабочых у турмы, ссылаюць іх на катаргу, зьнішчаюць іх электрычным крэслам, шыбельніцаю, ударам тапара ці куляю.

Але ўсіх не перавешаеш. Усіх не засадзіш за краты. І пролетары ўсіх краін, пад кіраўніцтвам сваіх партый і Комінтэрну, вядуць усюды змаганьне, усюды шпарка рыхтуюцца да апошняга рашучага бою.

Кляса супроць клясы.

Эксплёатаваныя супроць эксплёататараў.

Пролетары супроць заводчыкаў, абшарнікаў і банкіраў.

Бой цягнецца... апошняя рашучая схватка не за гарамі.

* * *

**І ў нас, тут, у Савецкім Саюзе ідзе бой. Бой за соцыялізм, бой за пяцігодку.**

Злосна супраціўляецца кулак і нэпман нашаму наступу на стары побыт, на дзедаўскія мэтоды работы, на рэшты капіталізму ў рэспубліцы працы. Усе свае сілы, усе здольнасьці, усе хітрыкі свае ўжываюць нашы клясавыя ворагі, каб перашкаджаць будаўніцтву новага комуністычнага сьвету, каб перашкаджаць колектывізацыі, каб расьсяваць нуду, нявер'е, паніку і разлад у нашых шэрагах.

А ў гэтым ім шчыра памагаюць нашы клясавыя ворагі на той бок барыкад—абшарнікі і капіталістыя Захаду, банкіры Лёнданскага Сіці, фабрыканты і мільёнэры Парыжу, Нью-Ёрку і Бэрліну. Памагаюць ім у гэтым і „божыя служкі"—пачынаючы ад папы рымскага і архібіскупа кентэбэрыйскага, і канчаючы нашымі пагромшчыкамі Эўлогіем, Антоніем і іншымі.

Але савецкаму пролетарыяту ня страшны ўсе гэтыя пралазы яго заклятых ворагаў. Сьмела будуе ён соцыялізм, сьмела, пад кіраўніцтвам свае компартыі, ідзе ён сваім шляхам.

І нічога ня можа зьбіць яго з яго простага шляху.

* * *

Абанкручаная соцыял-дэмократыя як нямецкая, так і ўсіх іншых краін сьвядома забыла ўсе рэволюцыйныя лёзунгі сьвята першага мая. Яе прадстаўнікі, дарваўшыся да міністэрскіх портфэляў, расстрэльваюць з кулямётаў рабочыя першамайскія дэмонстрацыі, ня горш царскіх апрычнікаў арыштоўваюць і зьбіваюць рэволюцыянэраў-дэмонстрантаў.

Нам-жа чырвоны май—сьвята рэволюцыйнага пролетарыяту—застаўся тым-жа рэволюцыйным сьвятам, якім ён быў і раней. Нашы першамайскія лёзунгі засталіся тымі-ж рэволюцыйнымі лёзунгамі, якія былі агалошаны яшчэ ў 1889 годзе, на соцыялістычным конгрэсе ў Парыжы.

Вось яны ясныя, выразныя, што клічуць пролетарыят да бою:

**— Кляса супроць клясы!.. За сусьветную рэволюцыю!.. Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!**

## „ДАЕШ ЧЫГУН".



**Праца на чыгуна-ліцейным заводзе.**

# ПРОЛЕТАРСКАЯ ПЕРАМОГА.

Нарыс СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА

Фото Ўл. Семянякі







Запалкавая фабрыка „Пролетарская перамога" ў Нова-Барысаве. На малюнку ўверсе: агульны від галоўнага корпусу ф-кі; ніжэй: фасад электрастанцыі з часткаю мосту, які злучае яе з фабрыкаю; унізе агульны від аднаго з цэхаў ф-кі.

ТАМ, дзе пяць год таму назад гойдаліся маладыя вішні ды яблыні, дзе шушукалі лісты клёну, там—у цэнтры Нова-Барысава ўзрасьлі высокія муры першага волата ў БССР, што пабудаваны па апошняму слову тэхнікі, высокія муры новай запалкавай фабрыкі—„Пролетарская перамога".

Ціха. Зусім ціха. Толькі час-ад-часу вырвецца глухі гук ад удару малатка, загудзе варштат, маланкай мільгане электрычнасьць ды ледзь-ледзь закруціцца мотор і зноў ціцыня абыйме гэтыя прыгожыя, шматкаляровыя муры. Толькі ветрык—незваны госьць, шугане, зьмяце сваім буйным хвастом са стрэх сьнег і зноў ціш. А ўнізе, каля самых ног будынкаў шпарка струменяць воды, бягуць кудысь у шырокія прасторы, сьведкі шматлікіх боек, сьведкі змаганьня і перамог—крыштальныя воды Бярозы. Усьціхамірыцца вецер-гуляка, супакояцца воды Бярозы і звонкая песьня, песьня працы льлецца з фабрыкі. Пры электрычным асьвятленьні ідзе праца—вялікі ўздым творчай энэргіі.

Зойдзем у гэтыя муры, паслухаем гэтых людзей, паглядзім на сталёвыя волаты-машыны.

* * *

Роўненька, адна ў адну стаяць зьёмальныя і афарбовачныя машыны.

Чок-чок, чок-чок, чок-чок—гутараць яны між сабой, выплёўваючы гатовыя карабкі запалак.

Лясь-лясь, лясь-лясь—люба вылясквае дзесятковая машына, што зроблена на нашым, савецкім Рыбінскім мэталюргічным заводзе.

Стук-стук, стук-стук,—выстукваюць малаткі рабочых, што забіваюць вялікія скрынкі з пачкамі гатовых запалак.

А далей, у нетрах машыннага гулу, ляску і стуку, у звоне жалеза, у гутарцы дзівосна-рытмічнай патанулі людзі. Патанулі сьцены, патанулі нават волатыаўтоматы. Не, аўтоматы ня хочуць падацца. Вось яны, нібы танкі пазадзіралі ўгару свае пярэднія часткі, але ніяк ня могуць узабрацца. Вось і застыглі так, падняўшы галовы ўгару.

— Дз-з-зы, дз-з-зы—дзярэ вушы скрыгітаньне бясконцых істужак, што круцяцца вакол волатаў-аўтоматаў.

У аўтомат паступае гатовая саломка. Тут яна набіваецца, тут робяцца галоўкі запалак, тут сушацца і разам з рамамі людзі адносяць іх потым у зьёмальны цэх. І ўсё гэта робіцца так проста і так шпарка! Глядзіш—і вачом ня верыш. Нібыта слухаеш казку, нібыта сьніш. Ня верыцца! А верыць трэба, бо гэта ня казка, бо гэта ня сон, а гэта вялікая справа, дзіцё вялікага Кастрычніка, роднае і ўласнае дзіцё працоўных мас. Каштоўнае яно. Дужа каштоўна яно, гэта дзіцё, для кожнага рабочага старой фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна", бо будавалася новая фабрыка за лік прыбыткаў ад старой.

Надыходзіла колумоўная кампанія, а чырвона-бярэзінцы не чакалі надбаўкі. Ня было з чаго падбаўляць. Трэ' было будаваць новую фабрыку.

— Дзяржава наша бедна. Грошай няма. Трэба самім як-небудзь абыходзіцца,—так гаварылі на сходзе рабочым—і рабочыя згаджаліся. Таму і вырасла так хутка любае дзіцё і дарагое.

* * *

Далей, за аўтоматамі стаяць сушыльныя шафы, іх усяго дзьве. Тут сушыцца набракшая саломка, тут яна шліфуецца. Паступае яна сюды ад варштатаў, што рубяць саламяную шчапу.

Ціха шапоча з вострым нажом белы, добра выпараны асінавы чурак. Ледзь рухаецца вал. Крануліся, закруціліся махавічкі і шасьцяронкі.

Чок-чок, чок-чок,—запяялі дапаможныя невялічкія колцы. Павольна з мяліцы шэль-машыны плыве шы-



Сход у часе абедзенага перапынку.

рокая—здаецца бясконцая, белая стужка—запалкавая стужка. Паглядзеце на яе,—на гэту бялёсую гладкую стужку. Параўнайце яе з гэтакай-жа стужкай фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна". І нават, калі вы нічога не разумееце ў вытворчасьці запалак, калі вы, нават, першы раз трапілі на запалкавую фабрыку, дык і то заўважыце розьніцу. Гільзавая стужка новай фабрыкі шмат танейшая — і вядома, экономнейшая. Нарэзы для згінаньня шмат глыбей. Уся стужка роўненькая, няма тут ні танейшых, ні таўсьцейшых месц. Гладкая, роўная, прывабная, як і сама маладая дзяўчына, што сьцеліць гэтую стужку ў „ляг"—дашчаную скрынку.

Калі „ляг" засьцелен паўнютка, істужкі адносяць да сячкарнага варштату. Тут іх сякуць на патрэбны памер і па конвееру адпраўляюць да скрыначных машын.

А якія яны дзівосныя; стаяць у два роўненькіх радочкі, нібыта адна аднэй любуюцца. Глянеш на іх, радасьць агарне. Такія яны прывабныя і любыя. Вачэй ня можна адарваць. Стаяў-бы вось так, ды цешыўся. А яны сакочуць як куры напярэдадні добрага надвор'я. Выкідаюць на конвеерную сетку карабкі, а апошнія, пакрысе рухаючыся, адвозяць карабкі—унутраныя і надворныя—у сушыльныя шафы. У шафах карабкі сушацца, нядоўга, праз якіх дзьве-тры мінуты яны ўжо вэнтылятарам падаюцца да машын, а адтуль ідуць да здымальных варштатаў

Так робяцца запалкі на новай фабрыцы „Пролетарская перамога". Працуючы ў дзьве зьмены, фабрыка выпускае штодня за кожную зьмену па 400 тысяч карабкоў запалак. Цікава тое, што гэтыя 400 тысяч карабкоў выпрацоўваюць 240 чал., а ня 600, як на старой фабрыцы.

А хутка, зусім хутка, у лютым або сакавіку месяцы, фабрыка пяройдзе на бесьперапынку, на трохзьменную работу і 7-гадзінны рабочы дзень.

Шпарчэй забегаюць шківы і валікі. Ускорацць ход шасьцяронкі. Звонкую песьню, песьню радасьці запяюць моторы.

— А ведаеце—неяк ня думалася,—кажуць мне старыя рабочыя Беляцкі і Сьвідрыцкі,—неяк ня думалася, што мы сапраўды пабудуем гэтую фабрыку...

— Я на гэтай фабрыцы ўсёроўна як у Ленінградзе, — губляюся неяк, ніяк не магу прызвычаіцца,— кажа вылучэнка—загадчыца здымальнага цэху, Наста Патаповіч.

— Ну, гэта яшчэ ня ўсё, вы старыя мо' і не дачакаецеся, а мы—моладзь і ня гэта яшчэ ўбачым. Цікавае жыцьцё, нябачаныя дасягненьні толькі цяпер пачынаюцца. Мы яшчэ не такой пролетарскай перамогі дасягнем на фронце соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны,—шчыра, поўны моцы, веры і маладосьці сказаў комсамолец Цынкоўскі, вылучэнец на пасаду загадчыка змазачнага цэху.

* * *

А поплеч з новай фабрыкай высока ўзьняліся калёны будынку новай электрычнай станцыі імя тав. Леніна. Тут ня тое, што на „Пролетарскай Перамозе", дзе адзін чалавек між машын, шафаў і аўтоматаў застаецца няпрыкметным, тут прысутнасьць аднаго чалавека адразу дае сябе адчуваць, праўда ня ўсюды. Скажам, у кацельным аддзяленьні чалавек здаецца молекулай супроць волата-котла „Борзіг". А вось у турбагенэратарным аддзяленьні, інакш. Тут ня сіпяць вужакі — пара, а льлецца мілая монотонная песьня турбагенэратара. Пераліваецца электрычнае сьвятло на 13-ці белых мармуровых разьмеркавацельных дошках.

Электрычная станцыя яшчэ ня скончана. Пакуль што ўстаноўлены адзін турбагенэратар і адзін кацел. Але электрастанцыя ўжо асьвятляе горад, старую фабрыку, круціць дзьве зьмены Баргаркомбінату і новую фабрыку „Пролетарская перамога". Хутка яна дасьць сваё сьвятло і на завод імя Домбаля. А ўвясну электрычную энэргію атрымаюць усе прадпрыемствы гораду, атрымаюць яе сялянскія хаты вакольных вёсак.

* * *

Як быццам ззаду ўсёй фабрыкі стаяць яшчэ няскончаныя душ і шафы для спэцвопраткі. Рабочы, пасьля сканчэньня працы, зможа памыцца, скінуць з сябе той пыл, які набярэцца за час працы. А далей, у пачатку будынку, чысьценькая, выбеленая, добра абсталяваная, новая сталоўка. На сталах ляжаць газэты, часопісы. Рабочыя, што прыйшлі на зьмену, чакаюць тут. Люба, так люба, нават ісьці адгэтуль ня хочацца...

... А праз вакно бачна, як чорны дым з трубы электрычнай станцыі сьцелецца па дахах старой фабрыкі, а потым спаўзае на зямлю. Рытмічна гутораць моторы, чотка стукаюць малаточкі ды гудуць правады звонка і прыгожа.



Агульны від запалкавае фабрыкі „Пролетарская перамога" ў Нова-Барысаве.




**Апавяданьне ЖУЛЯ РОМЭНА**

**Малюнкі Г. Кіпніса.**

Я АДЧУВАЎ вялікае хваляваньне. Думаю, што я дрыжэў ня менш, чым цыліндры мае машыны. Я казаў сабе:

„У гэты час канчаюцца мітынгі. Чыгуначнікі выходзяць; яны наваднаюць вуліцы; злучаюцца разам; накіроўваюцца да вуліцы Шапэль. Кіраўнікі забастоўкі заклапочаны тым, каб засьцерагчыся ад непарадкаў; забараняюць разьвінаць чырвоныя сьцягі і сьпяваць Інтэрнацыянал. Поліцыя робіць лёгкую спробу разагнаць дэманстрантаў, але ня вельмі налягае. Яны здавальняюцца, што паставілі солідны загародны атрад ад вуліцы Ордэнэр да вуліцы Рыкэ. Я яскрава ўяўляю сабе адсюль на адхоне, у тупіку ўлева і асабліва ў расшырэньні вуліцы: пехатою поліцэйскія і пірамідкі стрэльбаў перад імі, і, урэшце, конная поліцыя і драгуны ў поўнай гатоўнасьці да бою, лашчаць сьпіны сваіх коняй".

Прыяжджаю на пляц Сэн-Мішэль. У маім аўтобусе асталося толькі тры пасажыры. Спыняюся. Пасажыры сходзяць. Кондуктар звоніць. Я даю ход. Але замест таго, каб павярнуць направа, я паварочваю каля вадаёму Сэн-Мішэль налева, еду паўз плот каля нейкага складу, перасякаю бульвар пад носам у рушлівага трамвая і накіроўваюся да цэнтру. Я думаю, што ніхто нават не зьвярнуў увагі на гэта. Зноў праяжджаю паўз Палац Юстыцыі. Гадзіньнік паказвае паўтраця.

Мой кондуктар, хлопец зух, на якога напэўна можна было спадзявацца, забарыкадаваў уход у аўтобус лаўкаю. Мы адчувалі сябе вельмі добра. Дый на вуліцах спакойна ў нядзелю ў гэты час.

Па дарозе я прыдумаў сабе маршрут. Перасякаю пляц Шатле, паварочваю направа на авэню Вікторыя і смалю поўным ходам. У грудзях у мяне ўсё пераварочваецца. Ад гэтых пустых вуліц хочацца ванітаваць.

На шчасьце, на пляцу Ратушы я заўважыў два пустыя аўтобусы, што імчаліся адзін за адным як мага. Мне захацелася далучыцца да іх, але было-б небясьпечна. Да таго-ж мяне вабіла вуліца Сэн-Мартэн.

Праз момант я ўжо каля Музэю Мастацтва і Рамёслаў. Здавалася, што я мог-бы быць здаволеным. Але не. Хутчэй, што я адчуваў непакойнасьць. Лёгкасьць, з якою ўдалося выканаць усё гэта здавалася мне вельмі вялікаю і ненатуральнаю. Парыж рабіў уражаньне пасткі. Ён рабіў уражаньне кручы, якую бачыш іншы раз ва сьне і ў якую няўтрымана падаеш.

Але вось я выяжджаю на Бульвары. Праяжджаю вароты Сэн-Мартэн і еду далей. Перада мною ў некалькіх сотнях мэтраў тры аўтобусы.

Але я не хацеў, ні даганаць трох аўтобусаў, ні ехаць тэю самаю дарогаю, што і яны. Паварочваю налева і выяжджаю на Страсбурскі бульвар.

Вось з баковае вуліцы паказваецца другі аўтобус. Ён паварочвае і бяжыць уперад у тым самым напрамку, што і я. Я скачу па яго сьлядох. Ён накіроўваецца па бульвары Маджэнта, а пасьля па вуліцы Мобэж.



Пляц Шапэль у момант быў запружаны натоўпам...

Аднак адлегласьць між намі ўсё большыцца. Я хацеў крыкнуць яму: „Ня так хутка. Мы прыедзем занадта рана". Але ён сам прыцішае ход. Кондуктар нахіляецца над пляцформай, корпаецца некаторы час, а пасьля вывешвае ззаду на парэнчах лесачак:

1—4

„Чацьверты нумар першага атраду". Я гатоў быў засыпаць яго пацалункамі. Я таксама прыцішаю ход. Вымаю табліцу, вывешваю перад радыятарам...

1—1

і стукаю ў шкло, каб мой кондуктар зрабіў тое самае.

Тады аўтобус 1—4 яшчэ больш прыцішае ход, бярэ ўправа і я пад'яжджаю поруч з ім. Манэўр пачынаўся. Гэта была хараша. Здавалася, што ўсё жыцьцё займаліся ім.

На тротуары стаяў шпік. Ён недаўмёна глядзіць на нас, шчыпае сябе за нос, як бы хочучы выцягнуць адтуль тлумачэньне, але нічога ня робіць.

Было ўжо тры гадзіны без шасьці мінут. Я еду зусім паволі, хочучы прыехаць у час. На вуліцы ніводнага экіпажу, затое вельмі праклятны рух пешаходаў. Было, праўда, чалавек пятнаццаць ці дваццаць, ня больш, але ўсё яны энэргічна ішлі ў адным напрамку. Нельга было стрымацца, каб не пайсьці туды, куды ішлі і яны.

Мы выяжджалі на рог бульвару Шапэль.

Тры гадзіны без чатырох мінут. Я яшчэ больш прыцішаю язду. Робім паварот. Я бачу ўнізе натоўп, нешта аграмаднае і мітусьлівае, але нідзе ня блішчыць ніводнага аўтобуснага шкла. Усяго мяне кінула ў пот. Пытаюся ў сябе:

„Дзе-ж яшчэ шэсьць аўтобусаў нашага атраду?" Яны пакінулі нас? Трапілі на якія-небудзь перашкоды?"

Я зноў гляджу на гадзіньнік. Бяз трох мінут тры. „Яны мабыць захацелі прыехаць акурат. Тым лепш. Поліцыя ня ўсьпее пашкодзіць нам".

Я чую ззаду сыгнал. Высоўваюся. Два аўтобусы галёпам наганяюць нас. На іх табліцы. Я ўсьпяваю прачытаць:

1—2
1—3

Тады я шворгаю ў кішэні, вымаю свой сьвісток і камандую: „Па два! Крокам!

„1—2" становяцца налева мяне. „1—3" „1—4" прыкрываюць нас ззаду.

Чую другі сыгнал. Дзьве машыны імчацца як мага з вуліцы Стывенсон. Яны бадай наткнуліся на поліцыю і ня вывесілі табліц. Я сьвішчу „збор". Табліцы паказваюцца:

1—5
1—7

Любата! Паўтараю каманду: „Па два!"

Яны далучаюцца да нас. Мы былі ў стох мэтрах ад пляцу. У вушах у мяне гуло; вочы засьцілаў туман. Ня ведаю ўжо, якая сіла кіравала маімі дзеяньнямі.

Каб быў поўны атрад—мне не хапала яшчэ двох машын. На маім гадзіньніку было тры без аднае мінуты. Другія атрады мабыць ужо сабраліся і чакаюць сыгналу.

Мы рушымся наперад. Мне здаецца, што натоўп зьліўся ў адно з зямлёю, з прасторам. Я шукаў ворага. Я нічога ня бачыў. І гэта ня зьдзіўляла мяне.

Вылятае аўтобус з прадмесьця Сэн-Дэні. Табліца „1—6“. Я паказваю яму рукою, каб заняў месца ў хвасьце. Ён тармозіць, запінаецца, з цяжкасьцю кіруе ў натоўпе, але ўрэшце спыняецца перад „Буф-дэю-Нор“. Мы едзем, мне не хапае толькі аднаго чалавека.

Даехаўшы да сярэдзіны пляцу, я заўважаю другі атрад, што шныпарыцца ў пачатку вуліцы Луі Блян. Яго можна было палічыць за кучу мітусьлівых дамоў. Зноў хапаю сьвісток і камандую:

„Па два! Наперад!“.

Чую як начальнік другога атраду паўтарае каманду, чую шум шасьцёрак, дрыготу дамоў.

Вуліца Шапель проста перад намі. У мяне было адчуваньне грузчыка, які шукае вачыма, куды-б разгрузіць шаланду з вугалем.

Тратуары—іх ня відаць было. З кожнага боку густы натоўп два адхоны.

Мы ехалі бадай што крокам, каб даць час колёне выраўняцца за намі. Мяне мучыла тое, што я не магу азірнуцца і паглядзець ці ўсё ў парадку. Але я адчуваў упэўненасьць. Да мяне як-бы ветрам данасіўся магутны шум мотораў і калёс. Брук і дамы дрыжэлі так моцна, што здавалася,—ты знаходзішся ў гарматнай рулі.



На касагоры, вуліцу перагароджвала поліцэйская застава.

Крычу свайму суседу на ўсё горла.

— Нахіліся і паглядзі, ці ўсьпелі атрады далучыцца да нас.

— Думаю, што далучыліся.

Самае галоўнае было—ня даць магчымасьці разлучыць нас. Я сьвішчу каманду:

„Шчыльней шары! Малыя прамежкі!“

Каманда выразна паўтараецца тры разы.

Мы ехалі яшчэ з мінуту між двума шарамі натоўпу, якія рабіліся ўсе больш і больш густымі, але, ня гледзячы на сваю шчыльнасьць, ня вельмі выпіраюць на сярэдзіну бруку.

Раптам тры поліцэйскія адходзяць ад тротуару, становяцца сярод вуліцы і падымаюць рукі.

Я крычу суседу;

— Не шманай! Зыр!

Я гляджу наперад. Натоўп звужваўся. Гэты натоўп здаваўся цьвёрдым, як чорнае дрэва. Хоць я і адчуў нашу сілу, але не разумеў, як можна будзе прайсьці праз натоўп.

Поліцэйскіх застаў ня было відаць.

Гэта быў апошні момант, калі я адчуваў страх, абмяркоўваючы, узважваючы шансы за і супроць.

Вымаю сьвісток: сьвішчу на ўсе лёгкія:

„Па чатыры! Наперад!“

Загад скача за мною ад атраду да атраду.

„1—2“ прыляпіўся да мяне зьлева. Другі рад параўнаўся з намі. Я ня думаў больш пра трох фараонаў. Дзе яны?

Натоўп быў п'яны ад радасьці. Ён надзімаўся, як-бы хочучы кінуцца на нас. Пасьля зноў адвальваўся.

Я сьвішчу каманду:

„Поўны ход!“. „Вялікая адлегласьць!“. „У атаку!“

Мой першы рад зрываецца з месца ўвесь зразу, аднэю натугаю. Раптам вольная адлегласьць перад намі расшыраецца і разрываецца. Здавалася там сьвідраваў нейкі дрыль і ў момант расчышчаў натоўп.

Але натоўп быў намі завалены, падхоплены намі. Ён бег поруч з машынамі, чапляючыся за жалезныя засовы, вешаўся на парэнчах, налазіў у сярэдзіну, карабкаўся на імпэрыял. Выў у тон цыліндрам. Кожны аўтобус поўніўся людзьмі, што рабілі яго больш масыўным; і кожны аўтобус цягнуў за сабою цэлыя гірлянды людзей.

Мы імчаліся наперад аднэю агрof грамадзінаю.

Вольная адлегласьць усё адступала. Але вось яна спыняецца, упіраецца. На касагоры, вуліцу перагароджвала поліцэйская застава. Яна займала адхон насупраць.

Крычу тром суседам:

— Не зьвяртайце ўвагі! Наперад! Наперад! Зачынеце вочы!

Я ўшчаперваюся ў старно далонямі, схіляюся над імі; зачыняю вочы.

Чую грохат машын і крыкі, што мяшаюцца з імі.

Астаюся з зачыненымі вачыма, як у тунэлі, можа трыццаць сэкунд.

Адчыняю вочы, няма больш заставы. Ніводнага поліцэйскага. Перад намі шырокі і пусты спуск; нават тротуары былі голымі.

Толькі ўнізе, узьяжджаючы на пляц—кавалерыя. Раптам—нешта блiснула: яны агаляюць шашкі. Яны разгортваюцца; едуць рысьсю, галёпам. Глыбіня вуліцы як-бы падымаецца к нам.

Вось драгунскія коні пачынаюць танцаваць. Яны шорхаюцца, круцяцца, становяцца на дыбкі. Некаторыя адскокваюць, некаторыя ўзьбіваюцца на тротуар; кідаюцца на дрэвы. Драгуны падаюць, куляюцца, сяк-так устаюць і выратоўваюцца, забыўшы шашку і шлем.

Усё-ж атраду чалавек у трыццаць удалося стрымаць свае коні, сяк-так яны выраўнялі фронт. Прышпорвалі з усяе моцы; мітусіліся.

Але калі мы апыніліся ў дзесяцёх мэтрах адны ад адных, коні больш нічога не хацелі ведаць. Яны зрабіліся, як шалёныя. Я перастаў добра бачыць, але мне здавалася, што яны панесьліся хто-куды.

Як я вам ужо сказаў—я трымаўся правага боку. Раптам, як з пад зямлі выскаквае конь без ездака і трапляе проста пад мае калёсы. Я ўрэзваюся проста ў яго, у самае чэрава. Конскае цела выгінаецца, адскоквае на тры крокі. Я нават не затармазіў. Я еду па ім. Маё правае калясо ідзе па шыі, левае—па жываце. Я нахіляюся направа і ўдараюся аб газавы ліхтар. Я адчуваю, што ён ломіцца але хуткасьць падзеньня была паслаблена і кузаў павольна лёг на вялікае дрэва.

Я аказваюся ў канаве; сам здаецца цэлы. Падымаюся на локці. Гляджу. Колёна рушылася. Я не распазнаваў ні радоў, ні атраду. Рушылася, як-бы яна адзіная машына, складзеная разам з натоўпу і аўтобусаў, і аднолькава магутная ва ўсіх сваіх частках. У сваім руху яна не зачэпвалася за мой перавернены рыдван, і ўглыблялася ў пляц як затычка ў бутэльку. Я станаўлюся на калені.

Самым цікавым быў зад майго аўтобуса. На парэнчах пляцоўкі, на лесках, на імпэрыале людзі віселі, як вусені. Хацелася абіраць іх прыгоршчамі.

Галава каня была поруч са мною. Яна ванітавала кроўю. Усе мае штаны намоклі.

Станаўлюся на ногі; пробую ісьці. Хоць я трымаўся за паясьніцу, але адчуваў сябе шчасьлівым.

Поруч стаяў карчмар перад сваею незачыненаю карчмою Шкадуючы, ён глядзеў на зломаны ліхтар.

Я кажу яму.

— Ня варта плакаць! Паставяць новы!—і заходжу выпіць коньяку.

— Як-жа ўсё гэта скончылася?

— Большасьць аўтобусаў дабралася да ўмацаваньняў. Былі нават і такія, што пагулялі па аколіцах і вярнуліся вельмі позна другою дарогаю.

— А натоўп?

— Натоўп хлынуў праз прабітую намі дзірку. Здаецца, што праз нейкія пяць мінут поліцэйскі атрад быў наладжаны і ў тры разы ўзмацнёны. Але было ўжо вельмі позна. Пляц Шапель у момант быў запружаны натоўпам, і вароты вакзалу затрышчэлі ад напору. Станцыю крыху пагрdevamілі, сякія-такія склады былі падпалены.

— У вас ня было няпрыемнасьцяй?

— Не. Паўночная кампанія і поліцыя вельмі хацелі, каб мяне выдалі. Але кампанія омнібусаў баялася забастоўкі. Справу зацёрлі.




# РУЖЫ Ў ПУСТЫНІ

Нарыс Б. КЛІМЧУКА

ГЭТЫ раён надзвычайна рознастайны. Тут сустракаюцца бязьмежныя стэпы-паўпустыні і стэпы з урадлівай глебай,—якая пасьля дажджоў і штучнага абвадненьня пакрываецца густой расьлінасьцю.

Стэп зьмяняюць вялізарныя хрыбты і горныя масывы з ледавікамі і адвечнымі сьнягамі, з высокімі верхавінамі і пераваламі, з вузкімі і глыбокімі цясьнінамі. На адным баку стэпу—Сібір багаты хлебам і лесам, а на другім—у Туркестане—у паўднёвай частцы Сярэдняй Азіі, па рэках Сыр-Дар'і і Амур-Дар'і раскіданы засевы бавоўны. Бавоўна—аснова нашай тэкстыльнай прамысловасьці, але сваёй бавоўны ў нас не хапае. Штогод мы трацім 120 мільёнаў залатых рублёў на ўвоз амэрыканскай і эгіпэцкай бавоўны. Між тым патрэбы ў бавоўне растуць. У 1931-32 годзе нашы фабрыкі пераробяць звыш 600 тыс. тон бавоўны, замест 310 тыс. тон, перапрацаваных у 1926-27 годзе. Каб забясьпечыць савецкай сыравінай тэкстыльную прамысловасьць і вызваліцца ад замежнай залежнасьці, мы павінны стварыць умовы для хуткага разьвіцьця савецкай бавоўны. А для гэтага перш за ўсё трэба забясьпечыць бавоўнаробаў танным сібірскім хлебам, а таксама завозіць па зручнай цане хлеб з Украіны, Паволжжа, Паўночнага Каўказу. Толькі пры гэтых умовах дэхканін зойме амаль усю штучна-абводненую ў Сярэдняй Азіі плошчу—больш 3 мільёнаў гектараў, з якіх цяпер бавоўнай засяецца ня больш 26 проц.

Вось чаму савецкі ўрад пачаў у 1927 годзе будаваць новую чыгуначную магістраль даўжынёю ў 1445 кілёмэтраў, акая павінна злучыць Сібір з Туркестанам. Магістраль начынаецца ля станцыі Сяміпалацінск Омскай чыгункі і канчаецца на поўдні, каля станцыі Лугавой, ранейшай Ташкенцкай чыгункі.


Злучэньне кольцаў дзюкера.

Туркестанцка-сібірская магістраль наблізіць да Сярэдняй Азіі і патаніць ня толькі хлеб, але і лес, у якім бязьлесны Туркестан адчувае гэткую вострую патрэбу. Лясныя багацьці Сібіру ў поўнай меры забясьпечаць Сярэднюю Азію танным лесам.

Але гэтым ня вычэрпваецца значэньне Турксібу. Дарога ажывіць вялізарны край, багацьці якога амаль зусім не выкарыстоўваюцца. Нават жывёлагадоўля—галоўны занятак насельніцтва гэтых мясьцін—ня можа пасьпяхова разьвівацца. Адсутнасьць шляхоў зносін перашкаджае выхаду продуктаў жывёлагадоўлі на рынак. Пабудаваная чыгунка адчыніць новыя рынкі для жывёлагадоўлі, узмоцніць выхад воўны і іншых продуктаў. Чыгунка зробіць Казакстан асноўнай базай Саюзу па воўне, скуры, конскаму воласу і іншай сыравіне.

Ня менш спрыяльнымі зьяўляюцца пэрспэктывы разьвіцьця земляробства, асабліва ў сувязі з работамі па штучным абвадненьні, якія ўжо праводзяцца. Вырастуць буйныя збожжавыя савецкія гаспадаркі, пад якія адведзена 95 тыс. *га* на Алтаі, звыш 150 тыс. *га* ў Сяміпалацінскім раёне і да 100 тыс. *га* ў Джэтысуйскім раёне. Новыя плошчы будуць выкарыстаны пад засевы тэхнічных і спэцыяльных культур—кендыр, рыс, мак. Вакол чыгункі будуць пабудаваны элеватары, млынарныя прадпрыемствы, халадзільнікі, тытуновыя фабрыкі, гарбарні, цукровыя заводы і іншыя.

Магутныя паклады карысных выкапняў дазваляюць у далейшым стварыць розныя галіны здабывальнай і апрацоўчай прамысловасьці. Багатыя Рыдэраўскія паклады каляровых мэталяў будуць злучаны пад'езднымі шляхамі. Значна лягчэй будзе пачаць распрацоўваць мядзяныя руды на паўночным беразе возера Балхаш. Самыя апошнія досьледы выявілі, што ў Сярэдняй Азіі на вялізарных абшарах рухомых пяскоў расьце каўчуканосная расьліна—хандрыла. Гэтая расьліна сама выціскае свой сок, ствараючы з яго наплывы, якія маюць у сабе 20 проц. каўчуку. Такім чынам Турксіб дасьць магчымасьць атрымаць значныя запасы ўнутрысаюзнага каўчуку.

Вялікія перашкоды стаялі на шляху будаўнікоў магістралі. Блізка ня было ні матэрыялаў, ні патрэбнай рабочай сілы. Усё гэта трэ' было даставіць у рэдка заселены Казакстан. Насельніцтва гэтага краю ня толькі ніколі ў жыцьці ня бачыла машыны, але, багатае на забабоны, яно часам нават варожа на гэтыя машыны глядзела. На пабудове ўжывалася шырокая мэханізацыя. Будаўнікам хацелася закончыць пабудову на год раней, чымся меркавалася па пляну і гэтым з'эканоміць дзесяткі млн. рублёў. Былі завезены магутныя экскаватары „Марыён", якія сваім магутным хобатам капалі водаправодныя каналы.

Гэта была пякельная работа. Некаторыя пункты работы—у цясьнінах Малай Соры на Досе,—знаходзіліся на 300—400 кілёмэтраў ад чыгуначнага шляху. На гэткай вялізарнай адлегласьці прыходзілася везьці ў разабраным выглядзе экскаватары, цеп-

лавозы, ваганеткі. Асабліва цяжка было перавозіць коньмі некаторыя часткі машын, якія важылі больш 600 пудоў. Аднак, справіліся будаўнікі і з гэтымі перашкодамі.

Шмат скептыкаў было, шмат малавераў, якія лічылі, што савецкаму ўраду не пад сілу гэткая вялікая задача, што ня здолеем ажыцьцявіць гэткі вялікі плян. Але кожны пройдзены кілёмэтр ламаў гэткія настроі, надаваў бадзёрасьць і ўпэўненасьць, што, ня гледзячы ні на вошта, работа будзе даведзена да канца і мёртвы стэп будзе ўзяты ў ланцугі рэек.

Будаўніцтва Турксібу ўзварушыла гэты край, выклікала да жыцьця новыя сілы, новыя пласты, якія дагэтуль ціскаў аўторытэт і кішэня бая і манапа. Завезеныя машыны дагары нагамі перавярнулі адвечныя забабоны і звычаі, што тут панавалі.

Большасьць, не дзеля заробку,—а каб толькі паглядзець, здалёку прыяжджалі сюды. Кіргізы ставілі тут свае юрты і, насупіўшы кудлатыя шапкі, каб засланіцца ад сьвятла і гарачыні, пазіралі на ўсё вакол дзіўнымі вачыма, вузкімі ад заўсёднага прыжмураньня.

І ня дзіва.

З легенд і песьняў кіргізам вядомы героі, якія прарабляюць розныя цуды. Песьні расьпяваюцца па сьвятах, іх слухаюць, наўрад ці ім вераць: „Мо, ўсё гэтае і было, але даўно. У тыя цёмныя часы, калі монгольскія арды валадалі сьветам“. Патомкі пераможных орд, прапаленыя гарачынёй і адарваныя ад сьвету бясплодным стэпам, ніяк ня могуць сабе ўявіць, адкуль бярэцца гэтая вялікая магутная машына, вялікая сіла новага чалавека, сіла якога значна большая за сілу самых славутых эпічных герояў.

І, гледзячы на будаўніцтва, кіргіз дзівіцца розуму нябачанай машыны і яшчэ больш—арганізаванай чалавечай працы.

Натоўпам, за шмат сот кілёмэтраў, прыходзяць сюды глядзець, як ня спыняючыся, не адпачываючы, насоўваецца на пріцыхлы сьвет машына, вялікая, чорная.

Бяз думак, без развагі праходзіць гэтае страшыдла па дапатопнай зямлі, паблісківаючы сталёвымі бакамі. Прыхіліўшы плоскую шыю чарпака, экскватар з грукатам рве глебу, узьнімаючы сьцяну пылу ад раскалашмачанага стэпу, і высыпае груду зямлі ды каменьняў па лініі, дзе ў далейшым будзе ляжаць дарожны насыціл.

Гэты магутны наступ машыны крышыць уяўленьні, разуменьні, прымушае ўсходняга чалавека па-новаму падыходзіць да рэчаў і іх ацэньваць.

Характэрна. Аднойчы, калі экскаватар, накідваючы раскалашмачаныя кавалкі зямлі, праходзіў па цаліне стэпу, некалькі кіргізак спынілі сваіх коняй і падняліся на страмёнах. Яны нерашуча, трывожна паклікалі машыністага, калі з машыны паказалася яго галава. Ён быў рады крыху адпачыць і паглядзець маладых жанчын.

— Ты моцны?—сказалі яму.

— Як быццам, так!—адказаў ён.

— Ты кіруеш моцным жалезным сланём, значыцца ты яшчэ дужэйшы?

— Але, я дужэйшы—адказаў ён.

— Ты ўсё можаш?—сказалі яму зноў.

— Але, усё магу,—згадзіўся ён.

— Мы бясплодныя,—паскардзіліся яму.

— Гэта вельмі дрэнна,—спачувальна адказаў ён.

— За гэта нас мужыкі нашыя хутка прагоняць і возьмуць другіх жонак.

— Чаго-ж вы хочаце?

— Каб ты нас вылечыў ад гэтага.

— Як-жа гэта зрабіць?—зацікавіўся ён.

— Гэтай машынай, якая ўсё можа.

— Ах, машынай,—згадзіўся ён.—Але, яна ўсё можа, яна здольна апладніць увесь гэты стэп. І зробіць гэта. Можаце мне верыць.

— Мы верым,—адказалі яны.

І дачкі народу, дзьве трацiны якога складаюць і пяюць свае ўласныя песьні, дзе разважаюць і выказваюцца паэтычнымі формуламі, дзе сіла дужэйшая за легенду, самі робяць легендай, зусім інакш растлумачылі вобразнае тлумачэньне машыністага адносна Турксібу, які мае стварыць новае жыцьцё.

Пакінуўшы коняй, яны кінуліся да машыны, кланяліся ёй, хапаліся за крант, чапляліся і не адрываліся да таго часу, пакуль ён не адкідваў іх сваім рухам. Яны прыціскаліся да сталі, цалавалі трубы. Дарма іх адганялі і ўгаварвалі, зноў і зноў яны кідаліся і прыгаварвалі:

— Слон, слон, дай нам сына!

— Дай, машына, вялікага сына!..

І сапраўды: машына радзіла вялікага сына—яна дала Турксіб. Турксіб—ужо ня міт, не проект, ня мара фантазёраў, а рэальная рэч, якая жыве, рухаецца створаная рукамі тысяч энтузіястых.

Вунь на кругавідзе зьяўляюцца дымкі, відаць сілуэты людзей коняй, можна падумаць,—ваенны фронт. Чырвоная істужка вагонаў усё больш выразна вызначаецца сярод прасторы бязьмежных стэпаў. Шпалы, рэйкі. Групы рабочых дакладна, з выразнай паступовасьцю вядуць сваю напружаную работу, раскідваючы шпалы, зашрубоўваючы і прышываючы рэйкі...Амэрыканскі конвэер на савецкай зямлі.

Няхай, па легендах, тысячагодзьдзі таму людзкія мовы зблыталіся ў часе будаўніцтва. Мы ня верым легендам. Мы бачым, як у часе будаўніцтва кіргізы, узбекі, сібіракі, уральцы, туркмены, казакі знаходзяць агульную мову. Яны рухаюцца шчыльнай масай. І чорная, вялізарная машына, як атакуючы слонь, вядзе іх наперад, узьняўшы хобат кранту, наступаючы на стэп, на бясплодзьдзе, на абшары, якія трэба перамагчы.

Яны пераможаны. 175 міл'ёнаў рублёў, патрачаных на гэтую справу, пачалі даваць вынікі. Ужо 15 сьнежня 1928 году да рэйкавай сеткі быў далучаны Сергіопольь.

19 ліпеня 1929 году першы цягнік прыйшоў у новую сталіцу Казакстану—Алма-ата. Першы цягнік сустрэў 30-тысячны натоўп на чале з толькі-што пераехаўшым у сваю новую сталіцу ўрадам Казакстану.

Зусім хутка, праз некалькі дзён, цягнікі Турксібу, напоўненыя сібірскім хлебам і лесам, пацягнуцца ў Туркестан. А з Туркестану ў прамысловыя цэнтры СССР пакоцяцца сотні і тысячы вагонаў бавоўны—сыравіны для тэкстыльных фабрык, на якіх занята сотні тысяч рабочых, апранаючых усю краіну.

Капіталістычныя чыгуначныя пабудовы ніколі ня бачылі гэткай вялізарнай колькасьці школ, больніц, амбуляторый, такіх клюбаў, якія будуюцца на Турксібе. Капіталістычная чыгунка нясе для краіны эксплёатацыю, уціск, рабунак. Соцыялістычны Турксіб далучыць да культурнай рэволюцыі, да вялізарнага соцыялістычнага будаўніцтва новыя сотні тысяч працоўных, новыя народы, дагэтуль адарваныя ад усяго сьвету мёртвым стэпам.

Турксіб стукаўся ў вароты. Турксіб прыйшоў. 1 мая 1930 году работы па будове Турксібу будуць скончаны: рэйкі, што ідуць з поўдня, сойдуцца з паўночнымі, і Турксіб зробіцца рэальным фактарам.

Ня будзе больш пустыні, выпаленага стэпу, узбутага пагоркамі, нібы забытая на горача напаленым прыпечку, пагорбленая ад сьпякоты, скура. Турксіб апладніць стэп.

Працоўны народ, скінуўшы путы нявольніцтва, прымусіць і ружы квітнець у пустыні.



Бэтонавая труба на паўднёвым вучастку Турксібу.




**КАЛЬТОФЭН**

*(З успамінаў аб нашых адважных далмацкіх прыяцелях)*

Як і было загадзя ўмоўлена, яны сустрэліся ля гавані. Рудо, маленькі Сьцяпан, беспрацоўны матрос і рыбакі. Выведнікаў ня было чуваць, прынамсі іх ня было відно. У канцы молу стаяла пара чужаземцаў: немцаў ці ангельцаў.

Матрос ня мог устрымацца, каб праяжджаючы міма чужаземцаў, не адпусьціць па іх адрасу некалькі жартаўлівых кпін, якія выклікалі з таго боку жвавае абурэньне.

„Што табе да гэтых людзей", выгаварваў маленькі Сьцяпан, які быў крыху пужлівым, „ты гэтым гевэрхалам можаш зьвярнуць на сябе ўвагу выведнікаў".

„Я не магу цярпець гэтых дурасьлівых мяшчан", абараняўся матрос, „яны прыяжджаюць сюды і трымаюць сябе, нібыта ў зоолёгічным садзе".

„Вы маеце рацыю", падхапіў дасьціпны Язэп, „толькі дзікія зьвяры знаходзяцца ня ў гэтых вугальных чаўнох, а там", і ён паказаў рукою на чорныя адхоны, па якіх разьмясьціліся раскошныя вілы. Кароль, італіец, заўважыў з другога чоўна, што ва ўсіх краінах з гэтым аднакава.

„Толькі больш не ў Расіі", прыпомніў рыбак Тоні. У соты раз ён пачаў расказваць гісторыю рускай рэволюцыі, якую ён перажываў тады ў Расіі, дзе ён быў той час ваеннапалонным.

„Мы знаходзіліся ў Маскве на вялікім пляцы, мы рабочыя і салдаты... Мы мелі зброю і сьцягі, чырвоныя сьцягі. І потым нехта пачаў гаварыць. Рабочыя, сяляне, гаварыў ён нам, перамога за намі,—гэта быў Ленін". Скончыў Тоні свой расказ.

„Ленін", паўтарылі ціхутка астатнія.

„Я ніколі не забудуся на гэта", прамармытаў рыбак Тоні.

Яны адплылі ўжо досыць далёка і пачалі выкідваць нераты, падобнасьць трэ' было ўсё-ж захоўваць, потым яны згрудзілі свае чоўны разам і аддалі іх на волю морскай плыні.

„Пачнем", пачаў Рудо, „ці празапасілі вы чырвонай фарбы?" Нехта дастаў пачак з кішэні.

„Добра", працягваў Рудо, „тут таксама маюцца і невялічкія плякаты. Кожны з вас атрымае па 20 прымернікаў. Вы павінны іх няпрыкметна і хутка расклеіць. А адзінаццаці з паловай начы трэ' пачаць у ніжняй частцы гораду. Паліцэйскі якраз у гэты час пачне свой першы вартовы абход. Трэ', значыцца, ісьці сьледам за ім."

Ён падзяліў плякаты: яны былі меншымі за насатку і ў кожным зьмяшчаўся буйным шрыфтам зажыгальны радок:

„Хай жыве Першы Май!"
„Далоў капіталізм!"
„Хай жыве сусьветная рэволюцыя!"

Гэтыя плякаты павінны былі заўтра раніцою, калі ўсё прачнецца, пракрычаць свае лёзунгі ўсім людзям.

„Ты чужаземец, Кароль", разважаў Сьцяпан, „ці пойдзеш ты, ня гледзячы на гэта, з намі?"

Кароль сьцьвярджальна кіўнуў галавой.

„Яны цябе ўжо вышлюць, калі зловяць у свае лапы!"

Кароль засьмяяўся:

„Калі ўжо так—рабочы ня мае бацькаўшчыны"!

Уздоўж надбярэжжа швэндалася два выведнікі, якія з удаванай абыякасьцю шпэгавалі вакол. Рыбакі не далі сябе ашукаць наконт іх памераў. Яны пайшлі жартуючы і пазяхаючы міма іх.

Неўзабаве па вуліцы загулі цяжкія крокі варты. Усе восем пролетараў зьніклі паміж дамамі.

Пустой і ціхай была вуліца...

Гадзінай пазьней работа была шчасьліва скончана.

Длінны бакавы фасад сабору быў аздоблены чырвоным пісаньнем. „Хай жыве Першы Май!" Гэта самае сьмяецца са шмат якіх мураў і порталаў.

Усюды, праз увесь горад, сьвецяцца маленькія гэрэтычныя плякаты. Нават рачны параход і гарадзкая чыгунка ня былі памілаваны.

Намер, да вялікага сораму паліцыі, удаўся як найлепей.

Перш, чымся папоўскія і дзяржаўныя пачварныя істоты прысьпелі зьнішчыць чырвоны сьлед, людзі спыняліся ля плякатаў і прачытвалі іх. Сьмяяліся над пужлівай старэннасьцю пачварных істот і ў задуменьні ішлі далей на работу.

Першы Май недазволенае сьвята. Хто памыкаўся яго сьвяткаваць, той сам сябе пхаў у небясьпеку. Але ня гледзячы на гэта, шмат хто адважыўся. Было сурова забаронена ўзьнімаць чырвоныя сьцягі, але-ж расьлі вялікія чырвоныя розы і макі.

Яны павіталіся:

„Хай жыве Першы Май!"

„Дазволеныя лістоўкі Рабоча-Сялянскага Сындыкату ўсё-ж канфіскавалі", вурчэў Рудо.

Матрос усьміхаўся: „Хай сабе, мы ўжо патурбаваліся!"

Яны пайшлі разам. Матрос паказаў галавою наперад: ішоў Язэп, трымаючы ў руках газэту. Ён шырака яе разгарнуў, так, што ўсе маглі бачыць на ёй белыя пляміны: дасягненьне цэнзуры. Перадавы артыкул меў толькі галаву, астатняе месца блішчэла пустэчай.

Язэп сьмяяўся: „Добрая пропаганда, ніколі так добра не разыходзілася газэта, як сёньня..." Яны разышліся.

Далей, уверсе вуліцы, зьбягаліся людзі. З сярэдзіны натоўпу гучэў голас Тоні: „Рабочы! Купляйце рабочага! „У яго проста з рук выхватвалі газэты. Мяшчане, якія бачылі ў гэтым пагрозу дзяржаўнай бясьпецы, лаяліся. Паліцэйскія ўжо беглі, зьверскі кідаючыся між людзей: „Разыйдзіся! Сходы забаронены".

Яны вырвалі ў Тоні з рук рэшту экзэмпляраў, выкрыкваючы: „Прэч, газэта конфіскавана!" Натоўп разьбегся, Паліцэйскія, фанабэрачыся, панесьлі сваю здабычу. Тоні, застаўшыся адзін, ад душы сьмяяўся з іх.

Пасьля паўдня аддалі лістоўкі Рабоча-Сялянскага сындыкату.

„Што мы будзем з імі рабіць?" спытаўся Вінко, які прынёс гэты пак. Рудо параіў: „Схавайце кожны па дзесяць ці дваццаць прымернікаў. Мы пранясем іх контрабандай на каменяломні!"

А паўдні сабраліся яны ўсе разам, тварышы і тыя, што ім сымпатызавалі, у адным рабочым трактыры ў аднэй з бліжэйшых вёсак. Адтуль магчыма было накіравацца на каменяломню.

Быў цёплы веснавы дзень. Ужо сонца прытульна абмалявала шэра-жоўтае каменьне. У адным роўнамерным такце зьлівалася стучэньне молатаў, крахценьне сьвёрдлаў.

Вочы наглядніка непакойліва і недаверліва шмыгалі па скалістай сьцяне, па напалову голых, схудалых, цынамонавых сьпінах, па нахіленых галовах у чырвоных фесках. Ці ня зьняволеныя гэта з астрогу? Але не, гэта свабодныя рабочыя, сыны бедных горных сялян, якія зарабляюць тут свой мізэрны хлеб. Калі сьвяткуючыя рабочыя з сваімі чырвонымі кветкамі праходзілі міма, ішлі за імі сьледам нагляднікі, нібы добрыя сабакі-выведнікі. Але ня гледзячы на гэта, таму ці іншаму ўдалося пагаварыць з некаторымі. Што яны зарабляюць? Ня многа. Пяць дынараў у гадзіну, але паміж імі былі і такія, што зараблялі толькі па 3. Іх цьмяныя вочы неадхільна трымаліся ля чырвоных кветак. Ці ведалі яны іх значэньне?

Увечары, калі сьвяткуючыя зьвярталіся назад, каменяломня ляжала пустой і самотнай. Яны па ўсім месцы работ раскідалі чырвоныя лістоўкі. Ля драўляных баракаў, дзе жылі рабочыя, было чутно ціхае сьпяваньне. У монотоннай мэлёдыі зьмяшчалася скарга прыгнечанага народу.

„Мізэрнае жыцьцё", сказаў Сьцяпан.

„Аднойчы прыдзе дзень, калі і яны даведаюцца", дадаў упэўнены Тоні.

Кароль пачаў напяваць старую рабочую песьню сваёй радзімы. „Avanti populi..."

Наперад народы!

Май 1928 г.



**БЭТОНА-МЯШАЛКА (з цыклю „На будоўлі“)** **Офорт С. Крэмэра**

# НА ШЛЯХУ ДА НОВЫ







Наверсе: 1) Левая опозыцыя перамагае на выбарах фабзаўкомаў у Нямеччыне. На плякаце надпіс: „чырвоны Бэрлін абірае чырвоныя фабзаўкомы“; 2) Рабочы ўрад Англіі кулямётамі разганяе дэмонстрацыі беспрацоўных у Лёндане; 3) Чырвоны „чацьвер“ у Сан-Францыско праходзіў пад лёзунгам: „Ідзеце ў комуністычную партыю“.

# НОВЫХ ПЕРАМОГ











**У н і з е:** 1) Прысуджаны да пакараньня сьмерцю комуністы ў Пэкіне, кідае ў натоўп рэволюцыйныя лёзунгі; 2) Паліцэйскі аўтомобіль ахоўвае „Белы дом“ амэрыканскага прэзыдэнта ў Вашынгтоне ў часе дэмонстрацый беспрацоўных; 3) дэмонстрацыя беспрацоўных на вуліцах Нью-Ёрку.

# ЭНТУЗІЯСТЫЯ ЦЭХАЎ

**Нарыс**

Я СПАТКАЎ яго на вытворчай нарадзе. Цяпер ён майстар з дваццацігадовай практыкай. Як цярплівы доктар ён уважліва выслухаў мяне і, не супярэчачы ніводнай маёй просьбе, пасадзіў мяне за столік і лёгка пачаў чытаць цэлы сшытак лічбаў, нібы вершы. Ня гледзячы на іх безьліч, яны ўвайшлі ў мяне пэўнымі вобразамі, быццам сапраўды зрыфмаваныя для таго, каб лепш іх сабе ўявіць. Гэта былі поўнакроўныя лічбы, ня тыя, што звычайна бываюць у сумных дакладах і тэзісах і якія патрабуюць спэцыяльнай расшыфроўкі і ажыўленьня. Гэта былі жывыя вытворчыя лічбы, якія ўвайшлі ў гэтыя графы, разам са сваім майстрам, разам з усім сваім цэхам. Гэты сшытак быў нібы мозгам цэху, лічбы рухаліся, расьлі, падалі, зьмяняліся, конкрэтызавалі пэўнымі данымі посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва. Сшытак быў таўсты, але лічбы цяклі вершамі, і не стамляючыся я іх слухаў і слухаў, цалкам аддаючыся іх сугучнаму ўплыву.

І тут я пачуў тое, што хацеў пачуць, ідучы ў цэх. Спаборніцтва завода з заводам, цэха з цэхам, зьмены са зьменай, лёгічна павінны былі прывесьці да спаборніцтва чалавека з чалавекам. Спаборніцтва завода з заводам,—рэч бязумоўна добрая, але яго ня будзе, калі ня будуць спаборнічаць чалавек з чалавекам, спаборніцтва лёзунгам і маніфэстам ня ёсьць яшчэ энтузіязм працы.

Майстар спыніў рытм лічбаў і падаў некалькі конкрэтных прыкладаў...

...У малярным цэху заводу „Чырвоны Мэталісты“ ў Віцебску амаль заўсёды бывала так, што калі адзін выпушчае 20 малатарняй за дзень, дык усе выпушчаюць столькі-ж. Няма ў цэху чалавека, які здаваў-бы больш або менш продукцыі. А як вядома, у цэху ёсьць і слабыя, і моцныя, і спрытныя, і непаваротлівыя,—чаму-ж ва ўсіх аднолькавая выпрацоўка?

Стомлены, з азнакамі сухотаў на твары, змучаны дзесяткамі нагрузак, рабочы Шок, задумаўшыся над гэтай зьявай, хацеў было спытаць, як думаюць пра гэта таварышы. Але тыя маўчалі, або адказвалі жартамі. І гэтак яно было зразумела; новая расцэнка, нядаўна зацьверджаная, была прынята на падставе таго, што ўсе маляры ў адзін голас гаварылі:

— Хоць памры, а больш 18—20 у дзень ня зробіш!

Шок стаў на работу, на паўторнае афарбаваньне малатарняй.

І ў першы-ж дзень ён да перапынку на полудзень зрабіў 12 малатарняй — нябывалую ў цэху выпрацоўку.

Цэх насцярожыўся. У бок Шока панесьліся лаянкі, пакуль яшчэ нясьмелыя, шэптам.

Але ўжо было ясна—Шок ідзе супроць цэха.

На наступны дзень да поўдня (Шок працуе паўдня—ад другой паловы ён вызвалены, як рэдактар друкаванай заводзкай газэты) 14 малатарняй, на другі дзень—15, і, нарэшце, 17 малатарняй.

Цяпер цэх ня мог стрымацца, людзей апанавала сапраўдная злосьць. Але хітрая, да нельга хітрая і вываротлівая цэхаўшчына перасіліла сябе. Яна цьвяроза ўлічыла, што Шока крыкам не пабʼеш. Яна зразумела і тое, што крык занадта чутны будзе.

Цэх супакоіўся. Да полудня, пакуль Шок працуе і вырабляе 16—17 малатарняй, усе ў цэху выпушчаюць 15—16 малатарняй. Шок уходзіць—і за другую палову дня маляры выпушчаюць толькі па 10—11 малатарняй.

У кутку крычалі:

— Шоку добра гнаць 17 да поўдня, няхай паспрабуе цэлы дзень папрацаваць...



Праца ўдарніка.

Тады неўціхамірлівы маляр кінуў газэту і стаў на работу на цэлы дзень. І ў той дзень ён зрабіў 34 малатарні...

... А цяпер, як цэх працуе?—пытаюся я.

Цяпер? Пайшоў. Самае галоўнае—асабісты прыклад, адзін даў прыклад і пайшло—прыжылося, і да старога звароту няма. Новыя часы, новыя тэмпы. Інакш ня можа быць...

...Мо' чулі—„Чырвоная Бярэзіна“, запалкавая фабрыка, яна складаецца са шмат якіх цэхаў і між іншым там ёсьць і скрыначны цэх. Пераважна працуюць работніцы, дзяўчаты. Агульны творчы ўздым, які ахапіў усю фабрыку, ня мінуў і гэты цэх. Група комсамолак цэха ўзялася за організацыю ўдарнай брыгады. Воўкам глядзелі гультаі на ўдарніц. Яны было ледзь не пачалі байкатаваць комсамолку Клябанаву за тое, што яна сказала:

— Можна і на двух машынах працаваць аднэй.

Ну і дасталася ёй за гэта ад адсталых работніц.

— Падумаеш? Учора на фабрыку прыйшла, а сёньня ўжо тон задае—гаварылі некаторыя скрыначніцы.

Клябанава адна перайшла на дзьве машынкі, цяжка ёй было спачатку, але справілася. Яна паказала скрыначніцам, што аднэй работніцы на двух машынках працаваць можна. Другім работніцам ужо няма чым было біць і таксама перайшлі на дзьве машынкі.

Вось што значыць асабісты прыклад!

Ня ўсе ў цэху здаволіліся гэтымі дасягненьнямі. Работніца Емельянава паказала, што можна аднэй і з трыма машынамі ўправіцца. Узялася і—пайшло. Другія не захацелі ззаду застацца і таксама перайшлі на тры.

Вось гэта запал, вось гэта энтузіязм...

Энтузіястаў працы, энтузіястаў соцыялістычнага будаўніцтва можна сустрэць на ўсіх фабрыках і заводах, на ўсіх прадпрыемствах нашай Савецкай Беларусі. Усюды яны зьяўляюцца організатарамі комуністычнае працы, пачынальнікамі новых адносін да вытворчасьці, новых форм працы.

Флегматычны і заўсёды маўклівы рольшчык Цыганкоў з фабрыкі „Герой Працы“ на Гомельшчыне, быў ледзь ці ня першым з тых, што падхапілі ідэю спаборніцтва. Цыганкоў працуе на ролах—на „кухні паперы“, там, дзе ў вузкіх, доўгіх катлох, бяжыць густая папяровая маса. Ад таго, як працуюць ролы, залежыць надзвычайна многа. Не падай рольшчык сваячасова масы, не дагледзь за „рацэптам“—і папяровая машына можа спыніцца. Цыганкоў добра зразумеў, што па-ранейшаму працаваць нельга. Цыганкоў разам са сваімі хлапцамі далучыўся да працаваўшай брыгады Яськова і выклікаў астатніх на спаборніцтва.

— Цыганкоў карʼеру сабе ладзіць, гэта ён для мяккага крэсла,—загаварылі вакол,—ён думае, што яму залатую мэдаль дадуць.

Цыганкоў паднацiснуў і даў 24 скрынкі замест 21, як заўсёды. Рольшчыкі пачалі таксама даваць 24 скрынкі. Цыганкоў яшчэ паднацiснуў і даў 28. Павольна абціраючы пот, рабочыя таксама пачалі даганяць яго норму. Цыганкоў даў 34 скрынкі...

...Іх дзьве:—Шустрына і Мікалаева,—працуюць на самакладзе. Іх работа—ускласьці на фурманкі сухі тавар, які выходзіць з барабану. Продукцыя ідзе ў тры канцы, яе прымаюць тры фурманкі, каб разьвесьці па іншых аддзелах. Фурманкі падстаўляюцца пад струмень тавару,



Падпісваюць сацыялістычную ўмову.

які бязупынна падае з барабану. Трэці працаўнік мужчына. У гэтай рабоце, прамежкавай паміж чыста вытворчымі працэсамі, ня можа быць сваіх уласных дасягненьняў. Яны толькі як стрэлачнікі перавозяць тавар на чужыя стрэлкі. Вось і ўсё. Але і яны захацелі мець свае дасягненьні, а захацеўшы знайшлі і форму. Яны запрапанавалі скараціць на самакладзе колькасьць рабочых да 2. Конкрэтна, яны прапануюць перавесьці мужчыну на іншую работу, а накладку і фурманкі даручыць ім, абедзьвюм работніцам. Яны абедзьве атрымліваюць па 33 рублі, фурман-мжчына—41 рубель, усяго выдатку 107 рублеў. Іх прапанова даць ім па 41 рублю, мужчыну забраць, выдатку будзе—82 руб.

Гэта—спаборніцтва. Нават, калі на гэта няма занатаванага дагавору. Спаборніцтва, бязумоўна, пачалося тады, калі ўмовы і лёзунгі спусьціліся ўніз да машын і ў простых і зразумелых формах пачалі вызначаць адносіны чалавека да чалавека, машыны да машыны. Пісьмовыя абяцаньні завода заводу не даюць станоўчых вынікаў, пакуль не пачынаецца спаборніцтва ў цэхах і зьменах. Гэтую вайну звычайна пачынае маладая брыгада. Гэта яна ўзьнімае аўторытэт бацькоў, прымушае іх хутчэй завіхацца ля варштатаў і станкоў, каб не асароміцца перад маладымі рабочымі.

Падмайстра Ушакоў працуе ад пятнаццаці год. Дваццаць з лішнім год фабрычнае працы ня толькі далі яму вытворчую практыку, але і пераканаьне, што сіла рабочага ў колектыве, а яго слабасьць у адарванасьці ад колектыву, у распыленасьці сіл. Цяпер, калі ўся рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі Леніна ўсе сілы пакладае на тое, каб хутчэй, больш пасьпяхова, лепш выканаць пяцігадовы „плян вялікіх работ",—Ушакоў ня доўга пазіраў і думаў, каб вынесьці прапанову:

— Давайце працаваць па-новаму, разам.

І таварышы Ушакова па корпусу падтрымлівалі яго. З 15 лістапада 1929 году яны пачалі працаваць па-новаму, разам. 15 лістапада новы корпус Шуйска-Цезінскай фабрыкі перайшоў на колектыўную ўдарную работу. Увесь корпус стаў аднэй ударнай брыгадай з 27 „чацьвёрак" і 6 „двоек" (працуюць па чатыры і па два варстаты). Калі раней кожны ведаў толькі сваю чацьвёрку ці двойку, дык часта здараліся выпадкі, што з прычыны ня прыходу на работу рабочага, варстат „гуляў", зараз гэтага ўжо няма. Цяпер усе варстаты колектыўныя і колектыў ніколі не дапусьціць прастою варстата. Адзін за ўсіх, усе за аднаго.

— Гэта ўжо і ёсьць асноўныя ўзаемаадносіны паміж рабочымі, якія будуць пры соцыялізьме.

— У нас,—з гонарам кажуць рабочыя,—гэтыя ўзаемаадносіны ўжо існуюць з 15 лістапада 1929 г.

На ўвесь корпус, на ўсе тры зьмены—адна разьліковая кніжка. І выпрацоўка і заработак усіх зьмен ідзе „ў агульны кацёл", дзеліцца паміж усімі: адзін зарабляў больш, другі менш... Цяпер рабочыя адмовіліся ад індывідуальнай аплаты; яны зацікаўлены ў тым, каб іх корпус, іх колектыў вырабляў больш і лепш.

Цяпер гэткіх фабрык і заводаў у нас робіцца з кожным днём усё больш і больш. Гэты рух, рух ударных колектываўкомун, бытавых комун—малады рух. Перад ім выключныя цяжкасьці. Задачы, пастаўленыя перад рабочымі, якія адважыліся перайсьці ад спаборніцтва да вышэйшых форм соцыялістычнай організацыі працы, сустракаюць аграмадныя перашкоды, перш за ўсё, у нашай экономічнай і тэхнічнай адсталасьці. Але няма ніякіх сумненьняў у тым, што гэты рух пераможа.

На нашых вачох узьнікаюць новыя формы змаганьня за комуністычны лад, якія пранікаюць у самую адсталую галіну—у быт, дзе найбольш за ўсё ўкараніліся забабоны і традыцыі ранейшага парадку.

Ня гледзячы на вялікія перашкоды, канчатковая перамога гэтых форм не выклікае ніякага сумненьня.

П'ЕР ДЗЮКЛЁ

# ПЕРШЫ • МАЙ У ПАРЫЖЫ

(З успамінаў удзельніка)



**Пляц Рэспублікі ў Парыжы, дзе 1-га Мая 1920 г. жандары шаблямі разганялі колёны дэмонстрантаў.**

ВЯЛІЗНЫ пляц рэспублікі ў Парыжы ў гэты сонечны і ясны дзень першага мая 1920 г. поўны народу. Ледзь калыхаюцца цёплым ветрыкам чырвоныя сьцягі, грымяць оркестры, а на плякатах—тады ўпяршыню,—баявыя рэволюцыйныя лёзунгі:

— Уся ўлада Саветам!.. Няхай жыве Ленін!..

Іншыя плякаты кажуць пра голад, пра беспрацоўе.

— Хлеба нашым дзецям! мы патрабуем работы!—напісана на іх.

Яркае майскае сонца залівае сваімі цёплымі праменьнямі шматтысячны натоўп парыскіх рабочых. Яны сталі ў гэты дзень пад свае баявыя чырвоныя сьцягі для таго, каб дэмонстрацыяй адзначыць сваё рэволюцыйнае сьвята, каб сваёю, пакуль што яшчэ мірнаю, процэсіяй па сталічных вуліцах напамянуць буржуазіі пра сваё існаваньне, пра сваё права на жыцьцё, пра свае патрабаваньні. Спакойна, паважна, з упэўненасьцю ў сваёй сіле і справе, без рэволюцыйных песьняй і крыкаў ідуць яны з рабочых кварталаў у цэнтр гораду—на вялікія бульвары, каб пасьля, мірна разыйсьціся па хатах.

Таму, што ўжо за шмат дзён да гэтага першамайскага сьвята па горадзе хадзілі ўпартыя чуткі, што рыхтуецца ўрадам, „бацькам перамогі“ старога „сьвету“ Клемансо провокацыя, што гэты „рэспублікански“ ўрад цьвёрда наважыўся жорстка „правучыць“ рабочых Парыжу і назаўсёды адбіць у іх усякую ахвоту да рэволюцыйных дэмонстрацый.

Так пісалі больш-менш адчынена парыскія буржуазныя газэты яшчэ за шмат дзён да рэволюцыйнага сьвята першага мая. Вось таму пролетарыят францускае сталіцы, дакладна выконваючы паказаньні сваіх політычных кіраўнікоў, наважыўся захоўваць вялікую асьцярогу; не сьпяваць рэволюцыйных песьняй, не выкідаць з сваіх шэрагаў рэволюцыйных лёзунгаў. Дэмонстрацыя павінна была адбыцца паважна і мірна для таго, каб ня даць зачэпкі буржуазнаму ўраду крывава расправіцца з дэмонстрантамі.

— Час барыкадных боек яшчэ не прабіў,—гаварылі комуністыя парыскім рабочым. Мы яшчэ не гатовы да рашучае схваткі з ворагам...

І рабочыя Парыжу да канца выконвалі гэтыя загады сваіх комуністычных кіраўнікоў. Паважна і павольна ішлі яны шчыльнымі радамі пад сваімі чырвонымі сьцягамі. І ніводнага гнеўнага крыку, ніводнага пагрознага выгуку не пачулася з іхных шэрагаў.

Раптам, недзе далёка, з натоўпу на пляцы пачулася нейкая провокацыйная лаянка на дэмонстрантаў.

— Агенты Масквы! — крычалі провокатары. — Як дорага вы прадаліся маскоўскім бальшавіком!

Недзе покнуў рэвольвэрны стрэл... Нехта цяжка застагнаў... На дэмонстрантаў паляцелі каменьні, парушаючы разьмераную хаду і робячы паніку.

— Поліцэйскія б'юць!—пранеслася па натоўпу.

— Няхай жыве рэволюцыя! Сьмерць буржуазіі! — крычалі нейкія падазроныя асобы.

— Таварышы, не паддавайцеся провокацыі!

Але „рэспубліканскаму“ ўраду гэтае „зачэпкі“ было зусім досыць, каб пачаць крывавую расправу над мірнаю першамайскаю дэмонстрацыяй, каб задушыць „бальшавіцкія непарадкі“. І ўрад дае загад сваім загадзя падрыхтаваным у суседніх вуліцах конным жандарам, поліцэйскім і войску—ачысьціць пляц ад дэмонстрантаў.

Пачалося пабоішча. З усіх бакоў, з шашкамі нагала, на бяззбройныя колёны рабочых кар'ерам несьліся атрады кавалерыі, усё месячы на сваёй дарозе, не шкадуючы ні старых, ні жанчын, ні дзяцей.

— Ратуйцеся! Хавайцеся ў бакавыя вуліцы, таварышы!—крычалі кіраўнікі дэмонстрацыі.—Не паддавайцеся паніцы!... Спакойна!

Натоўп рынуўся на ўсе бакі. Ратаваліся як мага ад гэтае бязьлітаснае салдацкае плоймы. Стогны параненых. Прадсьмяротны хрып. Глухі плач жанчын і дзяцей запоўнілі сабою яснае майскае паветра.

Так „рэспублікански“ ўрад тыгра Клемансо (некалі „соцыялістага“ і аднаго з мэраў Парыскае Комуны) расправіўся ў 1920 годзе з мірнаю першамайскаю дэмонстрацыяй парыскіх рабочых. Так у большасьці краін, дзе яшчэ пануе капітал, працоўныя масы спраўляюць у катаваньнях, у крыві, у жорсткім змаганьні сваё першамайскае сьвята роўнасьці і братэрства пролетараў усяго сьвету.

Прайшло шмат гадоў. Організаваная ў 1920 г. на конгрэсе ў г. Туры францускная комуністычная партыя цьвёрдаю рукою павяла францускі пролетарыят да новых, жорсткіх клясавых боек, да бліскучых, хоць з першага погляду здавалася - б яшчэ і малапрыкметных перамог над буржуазіяй.

Вельмі зьмяніўся, вельмі вырас і клясава ўзмацніўся за гэтыя дзесяць год і францускі пролетарыят. Патомкі тых, хто змагаўся на барыкадах рэволюцыі 1830 і 1848 году, патомкі комунараў 1871 году—гэтыя патомкі прачнуліся ад свайго доўгага, амаль паўвекавога, політычнага сну, яны аказаліся і цяпер вартымі сваіх героічных продкаў. Грандыёзныя дэмонстрацыі ў Эўропе і Сэнт-Дэні, барыкадныя бойкі на вуліцах Парыжу ў дзень кары амэрыканскай буржуазіяй Сакко і Ванцэцьці, дружныя масавыя забастоўкі як на экономічных (падвышэньне зарплаты, змаганьне за 8-гадзінны рабочы дзень і супроць капіталістычнае рацыяналізацыі), так і па політычных (забастоўкі, протэсты супроць цкаваньня радзімы працоўных — СССР) прычынах—усё гэта выразна кажа за тое, што францускі пролетарыят мацнее ў клясавым змаганьні, што пад кіраўніцтвам сваёй компартыі, пад кіраўніцтвам Комінтэрну ён выйшаў цяпер на правільную баявую дарогу.

Прасочваецца комуністычная пропаганда і ў шэрагі францускае арміі. Рабочыя і сяляне, апранутыя ў салдацкія мундзіры, цяпер ужо таксама не такія, якія былі ў 1920 г., калі па загаду сваіх начальнікаў яны мясілі і разганялі рабочых дэмонстрантаў першага мая на пляцы Рэспублікі ў Парыжы. Ужо ў 1925 годзе кавалерыйскія часьці ў г. Страсбургу адмаўляюцца разганяць дэмонстрантаў—эльзаскіх чыгуначнікаў. Растуць паўстаньні ў францускім флёце. Дэмонструюць з чырвонымі сьцягамі і сьпяваюць у кашарах Інтэрнацыянал францускія рэзэрвістыя, што прызываюцца на ваенную перападрыхтоўку.

Страшэнным тэрорам навалілася францускае буржуазія на францускую компартію. Бадай увесь ужо цэнтральны камітэт перабыў у турмах. Жорсткімі прысудамі, шматтысячнымі штрафамі і шматгадовым зьняволеньнем правадыроў у астрогах, францускі буржуа спадзяецца паслабіць рабочы рух, абезгаловіць францускі пролетарыят.

Але гэта францускай буржуазіі ня ўдасца, бо месцы арыштаваных правадыроў займаюць другія, якіх вылучае сама рабочая маса і якія працягваюць справу таварышоў, што сядзяць у турмах.

Кляса супроць клясы да поўнае перамогі над буржуазіяй, да ўстанаўленьня дыктатуры пролетарыяту ва Францыі.

І мы пераможам. Мы ня можам не перамагчы.

# З ВУЛІЦЫ ДА РАБОЧЫХ ВАРШТАТАЎ

**Нарыс Г. РУГЕРА** **Фото Ўл. Семянякі**

Бяз помпы, без урачыстых прамоў адчынілі свае дзьверы бяспрытульным 20 студзеня 1929 году навучальна-вытворчыя майстэрні таварыства „Друг дзяцей" на Сураскай вуліцы.

У гэтых майстэрнях ёсьць шавецкі, зарыхтоўчы, швэйны (жаночага адзеньня) і белашвэйны цэх. А ў самым недалёкім будучым пачне функцыянаваць у аддзяленьні майстэрань на Маскоўскай вуліцы і цэх панчошны.

Тут 18 бяспрытульных—цяпер ужо былых бяспрытульных—пад кіраўніцтвам спрактыкаваных рабочых-брыгадзіраў набываюць працоўныя навыкі, вучацца карыснаму рамяству, кваліфікуюцца...

І ў працоўнай здаровай абстаноўцы забываюць пра вуліцу—вуліцу распусты, якая з дзіцячых год адрывала іх ад савецкай грамадзкасьці, ад будовы новага соцыялістычнага сьвету.

Два гады ідзе вучоба, на працягу якой вучань атрымлівае кожны дзень гарачы абед, пяць рублёў на месяц на кватэру тым, у каго няма свайго кутка, і ад трох да чатырнаццаці рублёў на месяц (у залежнасьці ад пасьпяховасьці) свайго ўжо ўласнага заработку.

А потым, пасьля сканчэньня курсаў у майстэрнях—бывай назаўсёды вуліца, бяспрытульнасьць, голад і начлегі па сьметніках.

Былога бяспрытульнага альбо былую бяспрытульную чакаюць завод, фабрыкі, працколектывы... Чакае бадзёрая праца на дабрабыт усяго працоўнага грамадзтва, чакае бадзёры і актыўны ўдзел у будаўніцтве новага жыцьця.

— Куды-ж пойдзеце працаваць па сканчэньні курсаў?—пытаемся мы ў былой бяспрытульнай, а цяпер здольнай і добра сябе трымаючай вучаніцы швэйнага цэху Ніны Аўсееўскай.

— У Меншвэй хачу, працаваць там буду,—адказвае яна.

— А на вуліцу „вандраваць" ня цягне?

— Не,—ідзе зараз-жа жвавы адказ.—Чаго на вуліцу? Тут лепей



Былая бяспрытульная вучыцца на закро шчыцу.



Вучэбна-вытворчыя майстэрні Менск. т-ва „Прыхільнік дзяцей". Былы бяспрытульны кваліфікуецца на закройшчыка.

Ніна Аўсееўская не адна. Брат яе таксама быў бяспрытульным, які аб'езьдзіў „зайцам" амаль усю Беларусь, а цяпер працуе і працуе добра ў друкарскіх майстэрнях АДзПУ.

А вось яшчэ малады Ельперын. Спачатку ён у Бабруйску, будучы там пасьля сьмерці свайго вар'ята-бацькі бяспрытульным, трапіў пад уплыў мясцовых рабінаў, якія прызначылі яго нават у адну з сваіх „боскіх" школ. Але комсамол шпарка выцягнуў яго з гэтага варожага нам кола і прызначыў на вучобу ў Менскія вытворчыя майстэрні.

І шмат яшчэ іншых былых дзяцей з вуліцы вучацца тут працоўнаму майстэрству, перавыхоўваюцца для іншай вытворчай дзейнасьці.

Але ёсьць і недахопы—вялікія недахопы ў працы навучальна-вытворчых майстэрань. Дужа кульгае тут культурна-выхаваўчая работа. Навучаючы добра дзяцей рамяству, тут мала з імі гутараць на палітычныя тэмы, мала тлумачаць ім сутнасьць бягучых нашых кампаній—соцыялістычнае спаборніцтва, змаганьне за падвышэньне вытворчасьці працы, неабходнасьць працдысцыпліны.

Зусім пакуль яшчэ не працуюць грамадзкія організацыі—ні МОПР, ні Асоавіяхім, ні іншыя.

І яшчэ адзін вельмі буйны недахоп. Зусім у загоне ў майстэрнях беларуская мова. Акрамя... бухгальтара там ніхто не гаворыць на ёй.

* * *

У цяжкіх бойках з кулаком і нэпманам—бойках ня менш цяжкіх, чым у эпоху грамадзянскай вайны, будуе пролетарыят сваё новае жыцьцё, сьмела ідзе па шляху да комуністычнага грамадзтва.

І бойка за дзяцей, бойка за маладое пакаленьне—адзін з найважных вучасткаў нашага змаганьня.

У Савецкім Саюзе ня можа быць бяспрытульных, ня можа быць дзяцей рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства, якія ня былі-б уцягнуты ў кола працы, якія ня мелі-б сабе месца пад сонцам—пад савецкім сонцам.

Над гэтым і працуюць вытворчыя майстэрні на Сураскай вуліцы, як і шмат іншых майстэрань, раскінутых па ўсім неабсяжным прасторы Рэспублікі Працы.



БАРЫС МАЛКІН • • • • • • МЭТАЛЮРГІЧНЫ ЗАВОД • УКРАІНА

# ПЕРШАМАЙ Ў ВІЛЬНІ

НАРЫС
А. САЛАГУБА

ЗОЛАК. Віленскі абываталь яшчэ ляжыць у мягкіх пухавіках, а на рагох рабочых кварталаў расстаўляюцца ўзмоцненыя атрады паліцыі. Пільнае рабочае вока яшчэ ў цемры пазнае пасты „канарыкаў“, „архангелаў“, „гліны“, якія драцянымі кіпцюрамі аблытваюць рабочыя ваколіцы гораду.

Інтарэсы гасьцей крыху разышліся з інтарэсамі гаспадароў гэтых кварталаў. Рабочыя маюць задачай: колёнай прабрацца ў цэнтр гораду. Паліцыя мае загад: „больш аднаго ў групу ня зьбірацца“.

Над Вільняй покуль яшчэ быццам звычайная цішыня, але чулае вуха ўжо можа адчуць подых сваяасаблівай, першамайскай трывогі.

Першамайская раніца... Для адных яна прыносіць спалох і сьмяротнае трыпаценьне за свае маёнткі, за дабрабыт, за паразытызм—гэта буржуазія і яе нахлебнікі. Для другіх—сыгнал да клясавай барацьбы, да дэманстрацыі інтэрнацыянальнай салідарнасьці, да барацьбы са соцыялізм,—гэта пролетарыят.

„Нам няма чаго губляць, апрача сваіх кайданаў!“.

Раптам—шум. Спачатку прыціснуты, прыдушаны, нібы з глыбокіх скляпеньняў. Пасьля ўсё больш выразны, у голас радасны, вясёлы. Гэта—„Інтэрнацыянал“ на віленскім бруку. Магутны голас плыве, расплываецца, вібруе ў віленскім паветры. Мітусеньне ў радох. Высока над колёнай узьнімаецца чырвоны сьцяг. На тварах можна прачытаць: адвага, рашучасьць, энтузіязм, бадзёрасьць. У іхнім паступе—магутнасьць.

„Гэта бой наш астатні!
За працоўны на-р-од“...
Нех жые вшэхсьвятова рэволюцыя пролетарска!
Прэч з фашыцкім тэрорам!

Лёзунгі заклікалі працоўны народ да паўстаньня, да змаганьня за свае інтарэсы. Кульмінацыйны пункт першамайскага сьвята.

Раптам—замяшаньне, трывога. Атрад коннай паліцыі з агаленымі клінкамі разразае натоўп.

Бойка, крыкі. Стогны пакалечаных. Дрогнулі сьцягі. Але ўпарты натоўп імкнецца ісьці ўперад.

Вось багатыя кварталы. Азьвярэлы буржуа дапамагае паліцыі. Каменьні, цэгла, бутэлькі сыплюцца на галавы дэманстрантаў праз вокны, з бальконаў, з высокіх паверхаў.

„Бэндземы стшэляць!“.

„Буй то бэндзе астатні!..“

Грыміць у адказ.

Банда польскіх гімназістых і студэнтаў з унівэрсытэту Стэфана Батэрага каменьнямі і кіямі зьбіваюць рабочых.

Дэмонстрацыя ў крыві.

Рабочыя кідаюцца на буржуйскіх сынкоў. А ў гэты час з-за вугла паказваецца густы ланцуг „мундуровай“ паліцыі, якая дагэтуль спакойна паглядала, як студэнцікі зьбівалі рабочых. Дэмонстрацыя трапіла ў падвойны абстрэл—з фронту і тылу. Пыльны брук усланы параненымі і забітымі рабочымі.

Дэмонстрацыя прыдушана. То сюды, то туды ўцякаюць рабочыя, для таго, каб праз 15—20 хвілін сабрацца ў другім месцы. Першае мая—рабочы—гаспадар вуліцы.

На вежы гарністы праіграў.

„Яшчэ польска ня згінэла!“.

Абываталь лаецца... „Які лагодны дзень і ніякага табе спакою! Праклятыя бальшавікі“.

Абываталь не чым быць нездаволеным. Дзень яшчэ ня скончыўся, дэмонстрацыя ня спыняецца. Паліцыя ўжыла ўсе захады, каб у гэты дзень на пляцы перад Лунінскім астрогам было пуста. Яшчэ напярэдадні конная паліцыя заняла дарогу, што ў горад вядзе, каб сялян на рынку ня было. Але дарма.

Але дарма!

Хіба-ж спыніш рух, калі ён хваляю нясецца? На пляцы поўна сялян і вось сюды імкнуцца рабочыя дэмонстрантыя, каб разам з рэволюцыйнымі сялянамі вітаць са сьвятам соцень і тысяч таварышоў, якіх разьюшаны фашызм кінуў за краты.

Славуты Лунінскі пляц. Колькі крыві рэволюцыйных рабочых і сялян убралі ў сябе яго каменьніі. Каб каменьні маглі протэставаць... Кожны дзень праз гэты пляц праводзяць у кайданы закутых сыноў Заходняй Беларусі. Не краіна—а вялізарны астрог. Не народ—а нявольнікі,—вось што сталася з Заходняй Беларусьсю за часы белапольскага баляваньня ў гэтай краіне. Вось і вялізны „оржэл бялы“,—гэта Віленскі суд, які тысячы лепшых сыноў беларускіх працоўных на адвечную катаргу загнаў. Не адна маці асыпала гэты пляц гарачымі сьлязьмі, праважаючы за краты свайго апошняга сына.

Жандар не саромiцца, ён зусім не зацікаўлены ў тым, каб утаіць праўду. Кожны дзень вы можаце бачыць, як па дарозе

у вастрог жандар да сьмерці зьбівае арыштаванага, за тое, што ён адважыўся вітацца, сустрэўшы знаёмага. Гэта ў цэнтры „цывілізаванай“ Эўропы, гэта ў краіне, папы якой да хрыпоты крычаць аб культуры...

Усё больш рабочых куртак вы бачыце на рынку сярод сялянскіх сьвітак. Гэта асобным рабочым удалося прабрацца сюды.

„Багнэт на бронь!“

„Бальшавікоў гонь!“ Крычаць лёзунгі фашыстых і соцыял-фашысцкіх баявікоў, якія пужаюцца прабрацца ў гушчыню натоўпу. А тут комуністычная агітацыя дае свае вынікі. Рынак, нібы вялізарны мітынг. Сяляне ведаюць куды іх кліча пролетарыят.

Брук не спазнаць. Заўсёды чырвоны ад крыві рэволюцыянэраў, ён сёньня белы ад „бібулы“, якую шчодра рассыпалі соцыял-фашысцкія папы.

Паліцыя насядае. Чутны стрэлы. Зноў шум, лямант. Здалёку чуцен прыдушаны енк. Вялізарны гармідар, нібы трэскі ляцяць. Гэта з вастрогу. Гэта рэволюцыянэры па-свойму сьвяткуюць першае мая, гэта яны ўзьнялі протэст, пачуўшы стрэлы на пляцы.

Там за мураванай сьцяной ідзе шалёная клясавая барацьба. Няроўныя сілы, няроўныя ўмовы.

Людзі раскіданы па адзіночках. Рэдка—у агульных камерах. І ўсё-ж не праходзіць ніводнае рэволюцыйнае сьвята, якое-б не адзначалася-б усімі зьняволенымі.

пярэдадні першага мая і тут вядзецца ўпартая консьпірацыйная падрыхтоўка.

Палітзьняволеныя рыхтуюць даклады пра гісторыю клясавай барацьбы, аб соцыялістычным будаўніцтве СССР, аб чарговых задачах рэволюцыйнага падпольля.

Рыхтуецца таксама і адміністрацыя. Пералоўліваюць „грыпсы“,—тайную перапіску, адозвы. Падсылаюць провокатараў. Ідуць падрабязныя вобыскі па камерах, шукаюць чырвоныя істужкі, сьцягі, лёзунгі.

У агульнай камеры № 29 зьняволены малюе на вялізарнай пасьцілцы портрэты Маркса, Леніна. Уверсе, сьветла-радаснай фарбай пакладзена чырвоная зорка, а наабапал серп і молат.

Лёзунгі.

Няхай жыве СССР!

Прэч, з белым тэрорам!

Няхай жыве 1 мая!

За гэту работу „мастаку“ пагражаюць месяцы карцэру.

Але консьпірацыя... упартасьць і сталёвая воля перамагае.

А за вакном жыццё. Да мураў, да закратаваных вакон далятаюць гукі „Інтэрнацыяналу“, далятаюць стрэлы, шум барацьбы на пляцы.

Гэта сьвідруе, электрызуе астрог. Пераклічкі...

Камеры пераклікаюцца з камерай. Астрог з пляцам. Горад з вёскай. Паднявольная Заходняя Беларусь з вольнай савецкай Беларусьсю.

Нібы хорам увесь астрог пяе „Інтэрнацыянал“, гукі з астрогу даносяцца да дэмонстрантаў на пляцы. Яны падхопліваюць гэтыя гукі энтузіястых. Распагоджанае першамайскае радаснае неба нібы ўтрыць гэтым палкім барацьбітом. Астрожныя краты ня ў моцы спыніць жыццё рэволюцыянэраў.

Падвоеныя і патроеныя сілы паліцыі канчаюць расправу. Жандары ўрываюцца ў астрожныя камеры і да страты прытомнасьці зьбіваюць зьняволеных. Дзесяткі чалавек кідаюць у карцэры, у падзямельныя скляпы, дзе людзі вар'яцеюць, губляюць чалавечае аблічча. Ашалелая паліцыя кідае новыя сотні рабочых і сялян за краты. Пляц запаўняецца трупамі забітых. Больніцы ня могуць умясьціць параненых. Першамайскае сьвята прыдушана.

Дзень Першага Мая канчаецца, каб уступіць месца другому дню, каб з большым імпэтам рыхтавацца да „астатняй бойкі“. Усіх рабочых і сялян за краты не пасадзіць. Прыдзе дзень помсты. Будзе адплата.

Валадаром сьвету будзе праца.

Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!



ЧЫРВОНАЯ ДАПАМОГА

ОРГАН ЦК ЧЫРВОНАЙ ДАПАМОГІ (МОПР'у) ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

№ 1 (2) ВІЛЬНЯ, САКАВІК 1928 г. Цана 15 грош

...ои помощи рабочие и крестьяне Зап. Белоруссии облегчат ... сынов, заточенных в тюрьмах фашиста Пилсудского!

...льше стоят ... кого то... ...юченв которых находятся борцы за дело освобождения трудящихся.

Провокации являются постоянным средством, чтобы внести раздор в ряды заключенных. Фашистские методы борьбы прави... Пилсудского процветают в тюрмах по всей стране. Неслыханными ...нравственными издеватель... ...являющимися продолже... ...дефензиве и превзо... ...вековых заплеч... ...ое правитель... ...ых умолять ...е“ и т. д. ... ра-

Орган Цэнтральнага Камітэту МОПР'у Заходняе Беларусі, які падпольна выдаецца ў Вільні.

# ПЕРШАМАЙ

СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ.

Паветкай сьцягаў плыві.
Пошчакам вісяа да зор.
Радасьлі нашай узьвіў,
Комінаў стромчаты бор!
У сонцы сягонішніх дзён,
У рыкаце ўзьнятых сірэн,
У лучнасьці стройных колён
Нашай вясьне не старэць!
Песьню на плошчу нясі,
Песьню, што пеў за станком!
Пульс мільённых машын
Чуюць пацёмкі вякоў.
Сёньня на вуліцу ўсе!
Сэрца ня можа маўчаць!
Кожны сягоньня нясе
У сэрцы іскру Ільліча.
Сёньняча кожны пясьляр,
Муляр і кожны поэт,
Вінен ісьці, як змагар,
За перайначаны сьвет.
Нам не дарогай старой
Трэба наперад ісьці—
Кожны пастаўлены крок
Ровен пяці!..
Мы ня ў крозах жывем,
Мы ня імкнемся ў высь...
У рыкаце ўзьнятых сірэн
Крочым на комунізм!
З намі на вуліцах май,
З намі на плошчах вясна!
Чуеце радасны марш
Тысячы тысяч нас!
Сёньня на вуліцы ўсе,
Радасна песьні гучаць.
Кожны сягоньня нясе
У сэрцы іскру Ільліча!

Менск, 1930 г.



Яўрэйскі піонэрскі часопіс, які падпольна выдаецца ў Вільні на гэктографе.

# ЗА ДВА ТЫДНІ

ЧАСОВЫ англа-савецкі гандлёвы дагавор падпісаны. Лейбарыстыя больш не маглі адцягваць згоды. Утворанае становішча штурхала міністраў яго вялікасьці, якія пяк не сьпяшаліся выканаць сваіх прадвыбарчых абавязальніцтваў.

Радыё з Лёндану паведамляе:

— Паўпрэдам СССР тав. Сакольнікавым і міністрам чужаземных спраў Вялікабрытаніі Гендэрсонам падпісана часовая гандлёвая згода. Орган лейбарыстых, газэта „Дэйлі Геральд", комэнтуючы згоду, піша: „становішча, утворанае налётам на „Аркос", было катастрофічным для ангельскага гандлю і небясьпечным для ўсеагульнага міру. Дзьве вялікія дзяржавы ня могуць не падтрымоўваць адносін адна з аднэю...

Урэшце лейбарыстыя загаварылі пра неабходнасьць ліквідаваць провокацыйную і нахабную авантуру Джойнсона Хікса і его цьвёрдалобых спадружнікаў. Консэрватыўны ўрад, наўпярэчкі здаровай мысьлі, на шкоду ангельскай прамысловасьці і гандлю, пайшоў на разрыў адносін з Савецкім Саюзам; зьвярыная клясавая нянавісьць канчаткова затуманіла вочы консэрватыўным міністрам.

Консэрватыўная партыя спрабавала зноў, пасьля разгрому „Аркосу", наладзіць ваенны паход супроць СССР. Але спроба новае інтэрвэнцыі тады сарвалася. Імпэрыялістычныя суседзі на гэта не рызыкнулі...

Тады пачынаецца пэрыод экономічнае блёкады. Хацелі паставіць на калені працоўных СССР, хацелі прымусіць іх адмовіцца ад монополіі замежнага гандлю, а значыць—спыніць будаўніцтва соцыялізму ў краіне пролетарыята.

І гэтая карта аказалася бітаю. У выніку разрыва спыніўся гандаль з СССР. рэзка павялічылася беспрацоўе ў Англіі.

Ангельскі выбіральнік быў нездаволены. На гэтым здолелі сыграць лейбарыстыя, якія ішлі на выбары з абяцаньнямі—зараз-жа аднавіць узаемаадносіны з СССР.

Лейбарыстыя прышлі да ўлады. У прытульных міністэрскіх крэслах яны лёгка забыліся пра абацянкі. Дайшло да таго, што лібэралы агідна пасьмейваліся, напаміналі „рабочым" міністрам пра неабходнасьць выканаць папярэднія абяцаньні, дзякуючы каторым Макдональд і К-о прышлі да ўлады.

ЧАСОВАЯ гандлёвая згода СССР і Вялікабрытаніі, падпісаная 16-га красавіка ў сваіх 7-мі пунктах, ахопвае ўсе важнейшыя моманты савецка - ангельскіх гандлёвых зносін. У аснову дагавору пакладзены прынцып непарушнасьці монополіі замежнага гандлю Савецкага Саюза і, як вывад—у Лёндане ўтвараецца гандлёвае прадстаўніцтва СССР, кіраўнікі якога карыстаюцца правам дыплёматычнае недатыкальнасьці.

Дагавор утварае прынцып узаемнага найбольшага спрыяньня гандлю, абедзьве дзяржавы будуць карыстацца ільготамі і перавагамі, якія дадзены грамадзянам і гандлёвым організацыям іншых краін. На СССР, такім чынам, распаўсюджваецца вялікабрытанская ўрадавая схэма гарантыйных крэдытаў. У дагавор уключаны пункт, які засьцярагае інтарэсы СССР ад нядобрасумленных іскаў і судовых прыгавораў накшталт тых, якія мелі месца ў апошні час у Францыі.

У ГЭТАЙ згодзе найшлі месца асноўныя пытаньні савецка - ангельскіх адносін, якія мелі патрэбу ў прававым падмацаваньні. З гэтага боку згода мае вялікае палітычнае значэньне.

Аднак яна яшчэ зусім не выключае пагрозы ваеннага нападу на СССР і не зьяўляецца гарантыяй міру, як аб гэтым піша „Дэйлі Герольд". Згода робіць удар агрэсыўным замыслам найбольш рэакцыйных колаў буржуазіі. Але падрыхтоўка да вайны—ня спынялася і ня спыняецца.

Пра гэта не даводзіцца забываць

ПРА закулісную гульню, пра падрыхтоўку да вайны, якая робіцца ў габінэтаў і генэральных штабах імпэрыялістаў, нядаўна расказваў чалавек, якога ніяк нельга папікнуць у нястачы любові да буржуазнага сьвету. Гэты чалавек—польскі нацыяналісты, адзін з тварцоў буржуазнае польскае рэспублікі, што падпісаў ад яе імя Вэрсальскі дагавор — Роман Дмоўскі.

Тое, пра што расказваў у шэрагу сваіх артыкулаў Роман Дмоўскі, па сутнасьці, ня было сакрэтам. Але мае вялікую цікавасьць—як прынялі буржуазныя і соцыялфашысцкія партыі Польшчы споведзь старога дыплёмата.

Дмоўскі пісаў: „пры спатканьнях з прадстаўнікамі гандлю, прамысловасьці, фінансаў у Эўропе, усё часьцей можна чуць ваенныя лёзунгі, патрабаваньні крыжовага паходу на Савецкі Саюз, і паведамленьні, што **такі паход ужо вырашаны на нейкай нарадзе фінансістых** і,—што вельмі цікава—ініцыятары ваенных плянаў разьлічваюць ня толькі на зьнішчэньне савецкага ладу, але і на падзел СССР між буйнымі і нават дробнымі дзяржавамі. Але эўропейскія народы,—казаў далей Дмоўскі,—ня вельмі-то хочуць вайны, бо яны памятаюць яшчэ сусьветную вайну. Іншая справа—даручыць гэтыя опэрацыі Польшчы. Аказваецца, што мы, як і даўней, маем рэпутацыю дурняў, якіх можна падгаварыць на ўсё".

...Яны абяцаюць пры падзеле СССР аддаць Польшчы землі за Збручам. Польшчы даюць зразумець, што на вайну яна атрымае пазыку, вядома, на добрых процантах. Словам, сусьветны комівояжэр гатоў ваяваць да апошняе кроплі крыві .. польскага салдата.

ЧАМУ-Ж выступіў нацыянал-дэмократ Дмоўскі, які ненавідзіць комунізм ня менш за іншых польскіх палітыкаў.

Справа ў тым, што частка найбольш далёкабачнае польскае буржуазіі ўстрывожылася за лёс свае краіны. Фашысцкайжа Польшчы сусьветная буржуазія, паводле слоў самога Дмоўскага, дала ролю „дурняў", якіх можна падгаварыць на ўсё... Дмоўскі протэстуе супроць дзейнасьці польскіх мілітарыстых, якія гатовы выступіць ня толькі ў саюзе з фінансавым капіталам буржуазных краін, але і ў якасьці простых наймітаў „міжнароднага комівояжэра", г. зн. ваяваць з СССР „да апошняе кроплі крыві польскага салдата".

Дмоўскі зварочваецца да польскага ўраду, да новага польскага габінэту Пілсудзкага—Славэка, па тлумачэньні... Але ўрад, не апублікаваўшы програмы сваіх дзеяньняў, маўчыць.

І толькі значна пазьней, з вельмі туманнымі заявамі, выступіў на тэму пра „міжнароднага комівояжэра" міністр чужаземных спраў Польшчы п. Залескі. Характэрна яшчэ і тое, што гэтую заяву Залескі зрабіў не прадстаўнікам польскае прэсы, але амэрыканскаму журналістаму, корэспондэнту газэты „Нью-Ёрк-Таймс". І толькі з Амэрыкі гэтая гутарка папала на балонкі польскага буржуазнага друку. Залескі, вядома, адмаўляў агрэсыўныя намеры Польшчы ў адносінах да СССР, але аб фактах, аб асноўных абвінавачваньнях, высунутых Романам Дмоўскім як і належыць буржуазнаму дыплёмату—красамоўна маўчаў.

Залескі быў зусім бескарысным, калі ў канцы гутаркі з амэрыканскім журналістым, спрабаваў абвяргнуць наяўнасьць змовы міжнародных фінансістых аб організацыі нападу на СССР. Польскі міністр чужаземных спраў, бачыце, ня можа катэгорычна абвяргнуць, што ў Парыжы і іншых мясцох адбыліся нарады буйных фінансістых, што на гэтых нарадах абгаворваліся пытаньні датычныя да СССР. Але,—кажа Залескі,—калі сапраўды былі падобныя сустрэчы, то на іх хутчэй за ўсё абгаворваліся гандлёвыя пытаньні.

І ЎСЁ-Ж такі катэгорычных заяў Романа Дмоўскага п. Залескі абвяргнуць ня здолеў.

ПОЛЬСКІ буржуазны друк быў надзвычайна ўзбураны выступленьнямі Романа Дмоўскага. Польскія - ж газэты ўвесь час ня спыняюць шалёнага цкаваньня СССР. Інсінуацыя ідзе за інсінуацыяй. Усе захады добрыя—абы толькі рабіць падрыхтоўку да вайны на СССР. І раптам—адчыненае выступленьне Дмоўскага супроць небясьпечнае палітыкі кіраўнічае зграі.

Польскаму друку давялося ня мала пастарацца. Хацелася рабскі папрасіць прабачэньня за выкрыцьцё Дмоўскага перад сусьветнай буржуазіяй і папрабаваць згладзіць уражаньне ў сваёй уласнай краіне.

Тэлеграф прынёс вестку пра падрыхтоўку новага тэрорыстычнага акту супроць савецкага паўнамоцнага прадстаўніцтва ў Варшаве. Была спроба ўзарваць наша паўнамоцнае прадстаўніцтва. У комін будынка паўнамоцнага прадстаўніцтва была ўложана адская машына вялізнае выбуховае сілы. Зусім выпадкова катастрофа была папярэджана. Польскія ваенныя спэцыялістыя ўстанавалі, што падрыхтоўвала выбух вельмі напрактыкаваная рука. Выбух павінен быў зьнішчыць усю савецкую колёнію ў Варшаве ўключаючы жанок і дзяцей, бо выбух павінен быў адбыцца ўвечары, калі быў прызначаны збор савецкіх грамадзян у паўнамоцным прадстаўніцтве.

Здавалася - б, польская прэса павінна была садзейнічаць выяўленьню крывавых провокатараў вайны. Але і тут яна засталася вернаю самой сабе. Пасьля, як выкрылі напад — прадажныя фашысцкія газэты, імкнучыся замесьці сьляды, спрабавалі выставіць вінавайцам нападу... само паўнамоцнае прадстаўніцтва. Большага нахабства нельга было чакаць, далей ісьці няма куды.

І толькі ў апошнія дні польская прэса зьмяніла тон, адчуўшы ўсю небясьпеку гэтае гульні. А ўрэшце, польскія газэты і цяпер яшчэ заўзята ахоўваюць расійскіх белагвардзейцаў, стараюцца адхіліць ад іх падазрэньні...

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



Нановаабсталяваны інструментальны цэх на заводзе „Электрык" у Ленінградзе.



Новапабудаваная ў Кутаісе шоўка-матальная фабрыка.



Ашхабадзкая тэкстыльная фабрыка імя Дзяржынскага.



Адзін з цэхаў шоўка-прадзільнае і ткацкае фабрыкі ў Ганжы.



На фабрыцы „Красный Треугольник" канчаецца монтаж новага абсталяваньня для прагумоўваньня тканіны; абсталяваньне атрымана з Нямеччыны ад фірмы Крупа.



Эскаватар землячарпалкі на Днепрабудзе.



Новая трубная вытворчасьць на Марыюпальскіх заводах імя Ільіча. Агульны від трубапракатнага абсталяваньня, вагою ў 1500 т.



Панарамны выгляд 1-га аўтазборачнага заводу (Ніжні-Ноўгарад).

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Тав. А. Я. Балцін, пастановаю Ўраду БССР назначаны на пасаду Народнага Камісара Ўнутранага і Замежнага гандлю БССР.



Пабудова новага жыльлёвага корпуса ў комуне „Сейбіт“ Узьдзенскага раёну на Меншчыне.



Машына, якая вырабляе дубовую фанэру. Ужываецца ў Савецкім Саюзе ўпяршыню. Пастаўлена на Бабруйскім комбінаце.



Вечар сустрэчы раоочых-друкароў з колгасьнікамі. Рабочы 1-е дзяржаўнае друкарні гутарыць з колгасьнікам.



Тав. С. Гольдбэрг, новы старшыня Дзярж. Плянавае Камісіі БССР.



У Клімавічах пры парт.-профэсіянальным клюбе працуе фотогурток. На малюнку: група ўдзельнікаў гуртка.




Закладка ў Менску фабрыкі-кухні.



Форсаваным тэмпам ідзе работа па пабудове першае Ўсебеларускае Сельска-Гаспадарчае выстаўкі.
На малюнку: пабудова павільёну працы і быту.

# Кніжная вітрына

**Васіль Каваль. Крыніца** (апавяданьне, БДВ Менск 1929 г., 174 стар., цана 1 р. 25 к.




Васіль Каваль адзін з яскравых сучасных нова-сялянскіх пісьменьнікаў. Кніжка яго апавяданьняў расказвае аб барацьбе за новае на вёсцы („Ліпы“), аб жаночай долі („У супрадках“), аб жанчынах новае вёскі („За доляй“), аб пераходзе цыган на зямлю („Ілька“)...

Глыбокая лірычнасьць, шчырасьць, непасрэднасьць адчуваньняў характарызуюць гэту новую кніжачку Каваля, якая зьяўляецца каштоўным укладам у нашу літаратуру.

---

**„Беларускія народныя песьні“** Белдзяржвыдавецтва, Ноты з словамі. Цана паасобніка 15—20 кап.




БДВ выпусьціла на рынак шэраг беларускіх народных сьпеваў у гармонізацыі композытараў А. Грэчанінава, Іпалітава-Іванова, М. Равенскага, А. Туранкова і інш. У выйшаўшых выпусках маюцца наступныя творы для мешанага хору: „А ды ня пыл“. „Цяпер Купала“. „Ня стой каліна, „Ой, з пад лесу, лесу цемнага“. Для сольнага выкананьня з акомпонімэнтам фортэп'яна пакуль выйшлі: „Ляцела зязюля“. „Ой, ты белая бяроза“, „Прыляцелі гусі“.

---

**А. Касьцерын. Лётнік** (апавяданьне) ВДВ Менск 1930 г., 50 стар. цана 12 кап.




Шмат узрушаючых старонак мае гісторыя нашае Чырвонай Арміі. Але толькі нязначная частка яе барацьбы знайшла сваё адбіцьцё ў мастацкай літаратуры.

Кніжачка Касьцерына проста і шчыра расказвае аб адным з шматлікіх эпізодаў з часоў гэтае героічнае барацьбы.

Самаахвярнасьць лётніка, які ў тыфусовай гарачцы ляціць у тыл да белых надзвычайна ўдала паказана аўтарам.

Апавяданьне, бязумоўна, з цікавасьцю будзе прачытана самымі шырокімі коламі чытачоў.

---

**П. М. Сяргейчык.** Першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. БДзВ, Менск, 1930 г. 72 стар. Цана 30 кап.




Пропаганда і популярызацыя Першае ўсебеларускае выстаўкі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці сярод шырокіх працоўных мас гораду і вёскі праводзіцца недастаткова.

Час яе адчыненьня (першая палова жніўня гэтага году) не за гарамі.

Таму зьяўленьне брошуры Сяргейчыка зьяўляецца сваячасовым.

Яна дае чытачу досыць поўнае ўяўленьне аб тым, што будзе сабой прадстаўляць выстаўка, які яе характар і мэты, як і каму трэба рыхтавацца да выстаўкі, як наладжваць экскурсіі.

Неабходна прасунуць яе ў кожную бібліотэку, на завод, у колгас, на вёску.

Неабходна, каб усе колгасьнікі, батракі, беднякі і сераднякі ведалі добра аб выстаўцы і загадзя пачалі рыхтавацца да яе.

---

**П. Суражскі. На мяжы Эўропы і Азіі.** Сэрыя: „Вакол сьвету“. БДВ, Менск, 1930 г., 68 стар., цана 25 кап.




**У пяскох Кара-Куму** (зборнік туркестанскіх апавяданьняў); Сэрыя „Вакол сьвету“ БДВ, Менск, 1929 г., 156 стар., цана 45 кап.

Жыцьце працоўных у розных кутках Савецкага Саюзу, жыцьцё іншых краін, падарожжы, прыгодніцтвы—вось што складае зьмест сэрыі „Вакол сьвету“. П. Суражскі ў сваей кніжцы „На мяжы Эўропы і Азіі“ дае нарыс аб Урале і Башкірскай рэспубліцы. Перад вачыма чытача праходзяць малюнкі мінулага, паўстае сучасны Урал, Башкірыя, застанаўліваецца аўтар і на будучым Уралу.

„У пяскох Кара-Куму“ зьяўляецца зборнікам апавяданьняў з жыцьця Туркестану. Барацьба з басмачамі, паляваньне на вяпрукоў, малюнкі змаганьня Чырвонае арміі з бандамі Дзейнаід-хана, жыцьцё працоўных, вось што мы маем у гэтым зборніку.

Асабліва запамінаецца апавяданьне А. Сыціна—„Вага смагі“. Перад чытачом расчыняецца ўзрушаная гісторыя барацьбы чырвонаармейскага атраду ў пяскох Кара-Куму з бандай ёмудаў Дзеўнаід-хана.

Прыходзіцца толькі вітаць гэтую новую сэрыю, якая бязумоўна дапаможа нашаму чытачу шырэй пазнаёміцца з жыцьцём сусьвету.

# ГУМАР ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ

**Што дала фашыцкая дыктатура працоўным масам Заходняе Беларусі**




Свабоду.




Грамадзкія абавязкі.



Школу.



Зямлю.

*(З гумарыст. часопісі „Маланкс").*



Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

**МЕНСК** .. .. .. .. .. .. **Савецкая, 63.**

ПОЛЫМЯ

КНІГА ПЕРШАЯ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

1930

ВЫДАВЕЦТВА

**9-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ**

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1930 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. Менскага, Я. Купалы, А. Некрашэвіча, М. Чарота, І. Шыпілы.

**„ПОЛЫМЯ“** знаёміць з дасягненьнямі беларускай мастацкай літаратуры, літаратуры іншых народаў Савецкага Саюзу і чужаземнай, друкуе романы, аповесьці, апавяданьні, п'есы, поэмы, вершы.

**„ПОЛЫМЯ“** друкуе матэрыялы па політыцы, экономіцы, гісторыі беларускай культуры і гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі.

**„ПОЛЫМЯ“** зьмяшчае шмат навуковых матэрыялаў па філёзофіі, марксызму і ленінізму.

**„ПОЛЫМЯ“** дае чытачу крытычныя матэрыялы аб беларускай літаратуры, літаратуры іншых народаў СССР і чужаземнай.

**„ПОЛЫМЯ“** дае на сваіх старонках багаты кнігапіс-бібліографію, занатоўвае ўсе зьявы беларускай культуры, дае хроніку культурнага жыцьця ўсяго СССР, а таксама замежных краін.

**у „ПОЛЫМІ“** бяруць удзел самыя выдатныя літаратары, крытыкі, публіцыстыя і навуковыя сілы.

Час. „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ—12 КНІЖАК НА ГОД, ПАМЕРАМ КОЖНАЯ ў **10-12** АРКУШОЎ

**У 1930 ГОДЗЕ ПАДПІСНАЯ ЦАНА ЗЬНІЖАНА з 12 на 10 РУБЛЁЎ**

## Умовы падпіскі:

| на 12 м. | на 6 м. | на 3 м. | Кошт асобнага нумару |
|---|---|---|---|
| 10 р. | 5 р. | 3 р. | АДЗІН РУБЕЛЬ |

**МОЖНА ПАДПІСАЦЦА НА ВЫПЛАТУ**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р., да 1 ліпня—3 р. і да 1 кастрыч.—3 р.

**ПАЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 руб. і да 1 чэрвеня—2 руб.

**Падпісчыкам, якія заплацяць адразу ўсе грошы, ДАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ ІЛЬГОТЫ:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** дарма комплект „ПОЛЫМЯ“ за 1928 або 1929 год і пры куплі мастацкай ды політычнай літаратуры выданьняў БДВ (на суму да 30 р.) скідка ў 25 проц.

**ПАЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ:** пры куплі мастацкай і політычнай літаратуры выданьняў БДВ (на суму да **20** руб.) скідка ў 15 проц.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральнай кнігарняй БДВ (Менск, рог Ленінскай і Савецкай), усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ, аддзелам падпіскі Беларускага аддзяленьня ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54), яго агентурай на акругах і раёнах, усімі п.-т. канторамі і аддзяленьнямі, Беларускім аддзяленьнем выд. „Правда“ (Менск, Савецкая, 61) і яго пададдзяленьнямі, канторай газэты „Беларуская Вёска“ (Менск, Савецкая, 63) ды яе ўпаўнаважанымі і селькорамі ва ўсіх раёнах БССР.

# БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ
Адказны рэдактар **МІХАСЬ ЧАРОТ**

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | . . . . | 3 руб. — |
| На паўгода | . . . . | 1 руб. 50 кап. |
| На 3 месяцы | . . . | — 75 кап. |

**Цана асобнага нумару 15 кап.**



## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

**Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выдав. „Правда“, чыгуначных кіёсках, пашт. кіёсках і ўсіх газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР**

Менск, друк. БДВ, зак. № 713. Галоўлітбел № 1031. У ліку 8.000 экз.